ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 28 (2482)

11 ліпеня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ



3 ліпеня 1996 года Беларусь адзначыла Дзень вызвалення ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Асабліва шчымлівым ён быў для тых, ужо нямногіх, хто прайшоў з цяжкімі баямі гераічнымі дарогамі вайны, -- ветэранаў.

У 52-ю гадавіну вызвалення рэспублікі Прэзідэнт Белару... А. Лукашэнка ўсклаў вянок да помніка-абеліска на плошчы Перамогі ў сталіцы. ...ы ж прыйшлі і ветэраны, грамадскасць Мінска.

НА ЗДЫМКУ: Мінск, плошча Перамогі, 3 ліпеня 1996 года.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.

*ГЕРОІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ*

# МУЖНАСЦЬ І ДАБРЫНЯ ЯЎГЕНІЯ КЛУМАВА

Час няўмольна сцірае з памяці асобныя эпізоды нашага жыцця, факты, падзеі. Але ўдзячныя нашчадкі ніколі не забудуць бессмяротныя подзвігі, здзейсненыя людзьмі розных прафесій і нацыянальнасцей у бязлітаснай барацьбе супраць гітлераўскіх захопнікаў на зямлі беларускай у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Сярод тых, хто да канца і годна выканаў свой грамадзянскі абавязак, -- прафесар Яўгеній Клумаў.

"Вуліца названа імем актыўнага ўдзельніка Мінскага падполля Героя Савецкага Саюза Клумава Яўгенія Уладзіміравіча. У гады гітлераўскай акупацыі г. Мінска ён выратоўваў раненых партызан і падпольшчыкаў, забяспечваючы партызанскія атрады медыкаментамі, абсталяваў два партызанскія шпіталі".

Гэтыя словы можна прачытаць на доме N 5 па названай вуліцы ў гарадку трактарабудаўнікоў.

У 1964 годзе вуліца Клубная была перайменавана ў вуліцу Клумава. Хто ён, гэты мужны, рашучы чалавек, які больш паўстагоддзя таму назад аддаў жыццё за гонар, свабоду і незалежнасць Радзімы?

Вядомы беларускі савецкі вучоны ў галіне хірургіі і гінекалогіі, Яўгеній Клумаў нарадзіўся 16 снежня 1876 года ў Маскве ў сям'і адваката, дзе было шасцёра дзяцей -- тры сыны і тры дачкі. Жэня быў трэцім.

У 1895 годзе ён скончыў 1-ю Маскоўскую класічную гімназію і паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. У працэсе вучобы ў яго быў двухгадовы перапынак -- у 1896 і 1900 гадах. "Высылаўся з Масквы, -- піша Яўгеній Уладзіміравіч у сваёй аўтабіяграфіі, -- за ўдзел у студэнцкіх беспарадках".

У час руска-японскай вайны малады ўрач добраахвотна адправіўся на Далёкі Усход для аказання дапамогі раненым. Ён быў ваенным урачом у 13-м ваенна-санітарным паўтранспарце Прыамурскай ваеннай акругі, пазней -- у крэпасці Уладзівасток.

Месца ваеннага ўрача -- на перадавой лініі фронту. Там Я. Клумаў праявіў бясстрашнасць і мужнасць. Яўгеній Уладзіміравіч мог суткамі прастаяць на нагах у медыцынскай палатцы. Аперацыя за аперацыяй. Перавязка за перавязкай. Моцны ад прыроды, ён, каб захаваць працаздольнасць, сістэматычна займаўся гімнастыкай.

24 красавіка 1906 года Я. Клумаў дэмабілізаваўся і вярнуўся ў Маскву. У хуткім часе Клумаў справіў вяселле, ажаніўшыся з Галінай Андрэевай, дачкой ганаровага міравога суддзі Масквы, сваячкай пісьменніка У. Караленкі.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# "НАШ ЖУРБОТНЫ ШЛЯХ ПРАЦЯГВАЕЦЦА..."

## (ПІСЬМЫ У. ДУБОЎКІ ЖОНЦЫ І БЛІЗКІМ СА СТАЛІНСКІХ ЛАГЕРАЎ І ЭТАПАЎ)

Кругі гулагаўскага пекла для Уладзіміра Дубоўкі, як і для многіх іншых прадстаўнікоў беларускай творчай інтэлігенцыі, пачаліся ў 1930 годзе. Арыштавалі яго ў ліпені ў Маскве, дзе ён працаваў тады ў Саўнаркоме, перакладаючы на беларускую мову законы і пастановы саюзных органаў. Увогуле Дубоўка быў масквічом з салідным стажам -- бацькі, малазямельныя сяляне з былога Вілейскага павета, перабраліся ў "белакаменную" яшчэ ў першую сусветную вайну, калі будучаму паэту было ўсяго пятнаццаць гадоў. Ён вучыўся тады ў Нова-Вілейскай ...стаўніцкай семінарыі, эв...раванай па ўмовах вайны ў Невель. З пераездам бацькоў вокны роднага дома засвяціліся для яго ў Маскве. Лёс наканаваў яму зрабіцца масквічом, але беларусам ён застаўся на ўсё жыццё. Тэрытарыяльная адарванасць ад роднага краю зусім не перашкодзіла яму стаць выдатным майстрам беларускага паэтычнага слова, кнігамі якога зачытвалася ўся Беларусь. Ён прымаў самы жывы ўдзел як у літаратурна-грамадскім жыцці Беларусі (адзін з кіраўнікоў "Узвышша"), так і ў дзейнасці беларускіх зямляцтваў у Маскве. Якраз у маскоўскім Беларускім клубе ён пазнаёміўся з маладзенькай землячкай Марыяй -- настаўніцай Марыяй Кляус, якая стала неўзабаве яго жонкай, яго вернай спадарожніцай.

Высокія творчыя планы паэта, светлая гармонія маладой сям'і былі парушаны бязглуздым арыштам. Як і большасць іншых арыштаваных тады "нацдэмаў", Дубоўка быў прыгавораны да пяці гадоў высылкі. Месцам высылкі прызначылі Кіраўскую вобласць. Потым дадалі яшчэ два гады і накіравалі ў Чэбаксары (Чувашыя). Тады Уладзімір Мікалаевіч яшчэ не ведаў, што яго гулагаўская адысея расцягнецца амаль на трыццаць гадоў. Амаль трыццаць гадоў правеў ён у турмах і ссылках, хаця так і не мог зразумець -- за што? Таленавіцейшы паэт, чалавек высокай культуры трыццаць доўгіх гадоў быў сілком адарваны ад літаратурнай працы, быў вымушаны авалодаць дзесяткам прафесій -- маляр, тынкоўшчык, сталяр, пячнік, сантэхнік -- толькі не літаратура. Яго прымусілі забыць аб літаратурнай працы.

Разам з ім зазнала гора і яго жонка -- Марыя Пятроўна. З першым арыштам паэта пачаліся іх вымушаныя вандроўкі па краіне -- Яранск, Шушэрга, Чэбаксары. Марыя Пятроўна была з ім разам нават у самыя цяжкія моманты жыцця. Як толькі высвятлялася, куды чарговы раз адправілі мужа, Марыя Пятроўна збірала рэчы і ехала за мужам. Удвух было ўсё ж лягчэй. Дубоўка ў аўтабіяграфіі піша: "Шмат гадоў у маіх вандраваннях са мной была мая нязменная сяброўка Марыля Пятроўна. Яна натхняла мяне на шуканне светлага і прыгожага ў жыцці, падзяляючы са мной "і радасць, і гора" (Пяцьдзесят чатыры дарогі: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн., 1963. С. 206).



Але самае цяжкае было наперадзе. У 1937 годзе (краіна рыхтавалася тады да выбараў паводле новай Сталінскай Канстытуцыі) -- зноў арышт і прысуд: 10 гадоў дальних лагераў. А гэта ўжо, акрамя ўсяго іншага, значыла 10 доўгіх гадоў разлукі. Перад адпраўкай на Далёкі Усход Уладзіміра Мікалаевіча змясцілі ў Алатырскі бытавы лагер. Марыі Пятроўне ўдалося дабрацца туды і перадаць Уладзіміру Мікалаевічу цёплыя рэчы, праз частакол убачыцца з ім. Калі яна паведаміла яму пра прысуд, ён не мог гэтаму паверыць: "Не можа быць, табе сказалі няпраўду, ніякай жа справы няма. Я ўпэўнены, што пасля выбараў нас адпусцяць" (гл. успаміны Марыі Пятроўны, апублікаваныя ў N 2 часопіса "Маладосць" за 1994 год, с. 215).

(Працяг на 6-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ВЫПУСК У ПРЭЗІДЭНЦКАЙ АКАДЭМІІ*



**Адбыўся першы выпуск слухачоў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Дыпломы юрыстаў-міжнароднікаў і спецыялістаў па знешнеэканамічнай дзейнасці атрымалі 160 чалавек. Выпускнікі акрамя дыплома атрымалі і міжнародныя пасведчанні-сертыфікаты.**

**НА ЗДЫМКУ: у час уручэння дыпломаў.**

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## ХТО ВІНАВАТЫ Ў КАНФРАНТАЦЫІ?

**"Не Прэзідэнт з'явіўся прычынай узнікшых нелад- даў паміж Вярхоўным Саветам і Прэзідэнтам", -- заявіў А. Лукашэнка ў інтэрв'ю журналістам Беларускага тэлебачання.**

**Па яго словах, "вось, якая існавала некалі ў 12-м скліканні Вярхоўнага Савета, -- "Канстытуцыйны суд -- Вярхоўны Савет", успрынята і цяпер. Не выпадкова былыя народныя дэпутаты сёння абслугоўваюць новы Вярхоўны Савет. Вы бачыце, там усе адхіленыя, усе, знятыя з пасад, сёння паспяхова ўладкоўваюцца ў апараце Вярхоўнага Савета... і актыўна дапамагаюць праводзіць тую ж палітыку". Але самае страшнае, на думку кіраўніка дзярж[illegible], у тым, што "гэтая канфрантацыя с[illegible] перакідваецца ўніз, на месцы, яна пранізвае усё грамадства".**

**Як адзначыў А. Лукашэнка, цяпер ў адміністрацыі Прэзідэнта аналізуецца работа Вярхоўнага Савета, таму што "закрываць яго... ні ў якім выпадку нельга". У бліжэйшы час кіраўнік дзяржавы сустрэнецца з дзвюма групамі дэпутатаў, якія "здольны іс[illegible]а кантакт і абмяркоўваць праблемы з Прэзідэн[illegible] і прапаноўваць выйсце з узнікшага становішча".**

*ЗАМЕЖНЫЯ ІНВЕСТЫЦЫІ*

## У ГАНДАЛЬ

**На пачатак 1996 года ў Мінску зарэгістравана 667 замежных і 1 297 сумесных прадпрыемстваў, заснавальнікамі якіх з'яўляюцца прадстаўнікі больш як 60 краін свету. Найбольшую інвестыцыйную актыўнасць праяўляюць дзелавыя колы Польшчы (21,1 працэнта), Германіі (14,8 працэнта), ЗША (10,5 працэнта) і Італіі (8,6 працэнта).**

**Паказчыкам сур'ёзных адносінаў інвестараў да сваёй прысутнасці на беларускім рынку і, у прыватнасці, у горадзе Мінску служыць павелічэнне аб'ёмаў статутнага фонду сумесных і замежных прадпрыемстваў. Сёння ён складае 317 мільёнаў долараў ЗША, што на 20 працэнтаў больш, чым у папярэднім годзе.**

*ЖЛОБІНСКІЯ ФЕРМЕРЫ*



**Вёска Кастрычнік на Жлобіншчыне стала сапраўдным фермерскім цэнтрам у раёне. Пачыналі першыя фермеры з земляробства, потым за свае грошы выкапалі возера і сталі разводзіць карпаў. На сучасны момант у фермераў, якія маюць землі ў Кастрычніку, працуе дрэваапрацоўчы ўчастак, на якім вырабляюць тару, пабудаваны свінарнік, дзе ўжо пачалі разводзіць свінаматак з перспектывай на вытворчасць парасят і продаж іх насельніцтву.**

**НА ЗДЫМКУ: адзін з фермераў Мікалай ПАШУК на свінаферме, дзе ўтрымліваецца каля сотні парадзістых свінаматак.**

*"Зусім нядаўна споўнілася 55 гадоў з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Усе мы глыбока смуткуем па мільёнах і мільёнах ахвяр, яшчэ мацней усведамляем веліч подзвігу байцоў Чырвонай Арміі, партызан і падпольшчыкаў, нашых брацкіх народаў, якія перамаглі фашызм. Таму пытанні ўмацавання бяспекі на граніцах краін СНД для нас не прычына для дыпламатычнай рыторыкі, а адзін з найважнейшых напрамкаў дзяржаўнай палітыкі. Менавіта таму мы не ўтойваем свайго непрымання руху НАТО на ўсход.*

*Я прапаную ў раёнах былых сацыялістычных дзяржаў Усходняй Еўропы, на тэрыторыі Беларусі, Украіны, Прыбалтыкі, іншых дзяржаў, якія выказалі сваё жаданне, стварыць бяз'ядзерную зону. Я прапаную ўсім прыхільнікам руху НАТО на ўсход сродкі, якія спатрэбяцца на ажыццяўленне гэтай небяспечнай і дарагой задумы, выкарыстаць на гуманітарную дапамогу ахвярам Чарнобыля, на пераадоленне экалагічных вынікаў катастрофы.*

*У новай міжнароднай сітуацыі наспела пытанне аб стварэнні бяз'ядзернай прасторы ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе.*

*Беларусь, якая перажыла жахі не адной вайны, чарнобыльскую катастрофу, безумоўна, выступае за стварэнне бяз'ядзернай прасторы ў цэнтры Еўропы. Аднак сёння недастаткова аднабаковых мер па ядзернаму раззбраенню. Неабходны ясна выражаная воля ўсіх нашых суседзяў, іх гатоўнасць да канкрэтных крокаў па стварэнню бяз'ядзернай зоны ў Цэнтральным і Усходнім рэгіёнах Еўропы. Як аўтар прапановы Беларусь гатова ўзяць на сябе ролю каардынатара такіх крокаў, але, падкрэсліваю, яны павінны быць шматбаковымі".*

*(З выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра ЛУКАШЭНКІ 3 ліпеня на плошчы Перамогі ў Мінску).*

*ФЕСТЫВАЛЬ У ПАСТАВАХ*




**Шматлікіх музыкантаў, спевакоў і танцораў запрасіла гасцінная пастаўская зямля на фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". З гэтага года традыцыйны ўжо фестываль атрымаў статус міжнароднага. На яго прыехалі ўдзельнікі з Расіі, Малдовы і Беларусі.**

**У афішы -- мастацка-гістарычная праграма "Пастаўскі баль", канцэртныя выступленні ўдзельнікаў фестывалю, творчыя лабараторыі, конкурсы, феерверкі і многае іншае. Завяршылася свята гала-канцэртам і ўручэннем дыпломаў пераможцам і лаўрэатам.**

**НА ЗДЫМКУ: выступаюць удзельнікі пастаўскага фестывалю.**

*РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ*

## КАРАНАЦЫЯ АБРАЗА

**У касцёле Узвіжання Святога Крыжа ў Брэсце прайшла каранацыя цудатворнага абраза Маці Божай Берасцейскай.**

**На тэрыторыі Беларусі гэта ўжо трэцяя караванаваная ікона, дзве маюцца ў Жыровічах і Бельнічах.**

**Традыцыйна акт каранацыі ажыццяўляе сам папа рымскі ці ўпаўнаважаны ім для данага абраду епіскап. Гэтага ганаровага права быў удастоены кардынал Казімір Свёнтак -- мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, адміністратар апостальскай епархіі Пінскай.**

**Дарэчы, абраз Маці Божай Берасцейскай -- адзіны, што ацалеў у храме пасля яго закрыцця 15 студзеня 1948 года.**

**На ўрачыстасці ў Брэст прыехалі паломнікі з Польшчы, ЗША, Вялікабрытаніі, Германіі, Канады, Расіі, Беларусі.**

*ПРАДПРЫМАЛЬНАСЦЬ*




**Уласная пякарня з'явілася ў супермаркеце Віцебскага гандлёвага прадпрыемства "Веста", абсталяванне для яе паставіла італьянская фірма "Тэхнапаст".**

**Больш за сто кілаграмаў доўгіх батонаў, булачак з ванілінам, карыцай, разынкамі і макам выдае за гадзіну новая хлебапякарня.**

**НА ЗДЫМКУ: у такіх машынах рыхтуецца цеста для выпечкі батонаў і булачак.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ГАЗАПРАВОД Ямал--Еўропа працягнецца па Беларусі на 570 кіламетраў. Будаўніцтва яго, магчыма, пачнецца сёлета ў верасні. Работы будзе весці сумеснае беларуска-расійска-нямецкае прадпрыемства "Еўрагазбуд".

70-ГОДДЗЕ народнага артыста СССР Мікалая Яроменкі на высокім узроўні адзначалася ў яго родным купалаўскім тэатры. Сам Прэзідэнт А.Лукашэнка ўручыў юбіляру медаль імя Францішка Скарыны. Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С.Шарэцкі высока ацаніў заслугі М.Яроменкі ў яго намаганнях аб'яднаць славянскія культуры.

ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ па заработнай плаце складала ў Беларусі на пачатак чэрвеня 890 мільярдаў рублёў. На некаторых прадпрыемствах працоўныя не атрымалі зарплату яшчэ за сакавік месяц. У апошні тыдзень чэрвеня ў Мінску, Оршы, Гомелі адбыліся стыхійныя забастоўкі рабочых на заводах.

ПРЭЗІДЭНТ Беларусі А.Лукашэнка даў згоду на прыцягненне да крымінальнай адказнасці і прыпыненне судовых паўнамоцтваў суддзяў народнага суда Аршанскага раёна В.Бярговіна і Мсціслаўскага -- Л.Грыгор'евай. Першы абвінавачваецца ў атрыманні хабару, другая -- у халатнасці.

"БЕЛАРУСЬ як суверэнная дзяржава павінна быць прадстаўлена на ўсіх кантынентах зямнога шара", -- заявіў міністр знешніх эканамічных сувязей Міхаіл Марыніч. Міністр адзначыў, што ў 1995 годзе ў параўнанні з 1994-м павялічыўся аб'ём тавараабароту. Асабліва ўзрос гандаль Беларусі з Чэхіяй, Латвіяй, Літвой і Вялікабрытаніяй.

ГАРАДСКІЯ ўлады Віцебска далі згоду на продаж недабудаванай 16-павярховай гасцініцы фірме "Rada Inwestment" з Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў. Па завяршэнні будаўніцтва тут размесціцца гасцінічны комплекс і бізнес-цэнтр.

САМЫ суровы прыгавор вынес суд горада Кошыцэ ў Славакіі -- 24 гады зняволення. Так пакараны за забойства 2 паліцэйскіх Глеб Запатароў -- грамадзянін Беларусі. Яго саўдзельнік, Аляксандр, таксама наш зямляк, атрымаў 3 гады турмы.

*ПЕРАЖЫТКІ САЦЫЯЛІЗМУ*

## КРАДУЦЬ!

**Выконваючы ўказ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб узмацненні кантролю ў аграпрамысловым комплексе", супрацоўнікі органаў унутраных спраў нядаўна правялі цэлы комплекс мерапрыемстваў. Мэтай гэтай аперацыі было недапушчэнне і выкрыццё фактаў крадзяжоў на прадпрыемствах АПК.**

**Падчас гэтай аперацыі было праверана 4 786 сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. У выніку было прадухілена страт сельгаспрадукцыі на 1 мільярд 196 мільёнаў рублёў, выяўлена 1 413 злачынстваў. У прыватнасці, за крадзяжы сельгаспрадукцыі і іншыя злачынствы да крымінальнай адказнасці прыцягнута больш як 1 400 чалавек, у тым ліку 40 кіраўнікоў прадпрыемстваў і 289 матэрыяльна-адказных асоб.**

***ПАПРАЎКА:** У матэрыяле Д.Чаркасавай ("Г.Р." N 27) "Сціплая, слабая... моцная" памылкова згадваецца Зіна Главінская. Сапраўды ж размова ідзе пра Зіну Еўтухоўскую.*

*Просім прабачэння за прыкрую недакладнасць у Ніны Міхайлаўны Тарас.*

*"Голас Радзімы".*

*ПАСЛЯ ПАДАРОЖЖА Ў АЎСТРАЛІЮ*

# ПЕРАСЫХАЕ КРЫНІЧКА БЕЛАРУСКАСЦІ

Сп. Раецкаму (старэйшаму) ужо вельмі цяжка спраўляцца з такімі абавязкамі. Але дзякуй яму за тое, што ён зрабіў за гэты час.

Асобна варта сказаць пра царкву. Цяпер ужо добра вядома, што сапраўды беларускую праваслаўную царкву можна пабачыць толькі ў замежжы. І ў гэтым мы пераканаліся ў Аўстраліі, там дзейнічаюць менавіта такія цэрквы. Царкоўныя парафіі аб'ядноўваюць людзей, духоўна падтрымліваюць іх. Служба вядзецца па-беларуску, усе надпісы -- таксама. Беларусы пабудавалі цэрквы на свае сродкі. Так узніклі духоўныя асяродкі ў Мельбурне -- царква Святых віленскіх пакутнікаў (айцец Міхась Кулакоўскі), у Адэлаідзе -- царква Святых апосталаў Пятра і Паўла (айцец Міхась Бурнос), царква ў Перце.

Нам пашчасціла пазнаёміцца са святарамі з Мельбурна і Адэлаіды. Айцец Кулакоўскі і айцец Міхась Бурнос высвечаны на святарства там, на эміграцыі. Яны добраахвотна ўзялі на сябе гэты адказны, цяжкі пастырскі абавязак, каб не засталіся без боскай апекі іх браты і сёстры. Царкоўная служба -- гэта іх грамадскі абавязак, на жыццё ім даводзілася зарабляць іншай працаю. Аднак, прызнаюся, я мала бачыла за сваё жыццё такіх годных, такіх адданых святароў. Яны дзеляць са сваімі вернікамі ўсе іх клопаты, жывуць з імі адным жыццём. За гэта іх вельмі паважаюць і шануюць людзі. Царква тут дае вялікую падтрымку людзям у самоце. Матушкі святароў арганізуюць пры цэрквах сястрынствы і там пашыраюць ахвярную працу айцоў. Некалькі разоў мы былі на царкоўнай службе, і ўражанні засталіся незабыўныя. Тут, далёка ад Бацькаўшчыны, адпраўлялася служба за Беларусь, тут разам з усімі мы спявалі наш велічны гімн-малітву "Магутны Божа". На жаль, не ўдалося арганізаваць беларускі прыход у Сіднеі, дзе жыве таксама значная колькасць нашых суродзічаў. Тут яны наведваюць некалькі рускіх цэркваў. У адной з іх служыць святаром айцец Ігар Слабіч, беларус з Беласточчыны.

Наведалі мы таксама ў Сіднеі і Мельбурне беларускія могілкі, каб ушанаваць памяць тых шчырых суайчыннікаў, хто заўчасна адышоў у лепшы свет. Пасыпалі там беларускай зямелькі, якую прывезлі з Мінска. Ад'язджаючы ў Аўстралію, схадзіла да Петрапаўлаўскай царквы на Нямізе, каб набраць зямліцы ля крыжа ў двары. Узяла некалькі свечак, якія мы паставілі ў цэрквах за Беларусь і за аўстралійскіх беларусаў.

Так сталася, што якраз на час нашага побыту ў Аўстраліі прыпала святкаванне Вялікадня. Краіна гэта пераважна каталіцкая, і Вялікдзень тут -- дзяржаўнае свята. Нашы суродзічы большай часткаю праваслаўныя і таму святкуюць абодва Вялікадні. За тыдзень свяцілі ў царкве ў Сіднеі вербачкі, сваю прывезла ў Мінск. Разам са сваімі гаспадарамі -- Міколам і Валянцінаю Антухамі загадзя рыхтаваліся да свята. Спадарыня Валянціна пякла пірагі, фарбавала яйкі. Кошык з велікоднымі яйкамі ўзялі з сабою на ўсяночную службу ў царкву, каб асвяціць ды разгавецца раніцаю. У Аўстраліі, як і ў іншых краінах, велікоднае свята цудоўна ўпрыгожваюць яйкі, і не толькі сапраўдныя, а найбольш штучныя, з шакаладу. Яны паўсюдна прадаюцца перад святам -- рознакаляровыя, вялікія і маленькія. Нават у Мінск з сабою прывезлі вялікае шакаладнае яйка, што падаравалі нам у Сіднеі. Падумалася, чаму ж у нас няма такога. Хіба ж так складана гэта рабіць.

У Сіднеі многія святкавалі праваслаўны Вялікдзень -- беларусы, рускія, украінцы, грэкі і іншыя. Вяртаючыся з усяночнае службы праяжджалі міма вялікага рускага сабора, дзе было вельмі многа людзей. У Аўстраліі вялікая руская эміграцыя, якая пераважна складаецца з прадстаўнікоў так званай белай эміграцыі, што жылі раней у Харбіне і пасля устанаўлення камуністычнай улады ў Кітаі масава пераехалі ў Аўстралію. У Мельбурне мы пазнаёміліся праз сп. Алега Шнэка з такой рускай сям'ёю. Павел і Галіна вельмі цікавыя, шчырыя, адкрытыя людзі са складаным лёсам. Гэта было прыемнае знаёмства. Гаспадары гасціннага дома многа нам расказвалі пра сваё эмігранцкае жыццё; яны таксама сумуюць па радзіме, падтрымліваюць там свае нацыянальныя традыцыі, будуюць царкву. Прыгожа і галоўнае спакойна адсвяткавалі з аўстралійскімі беларусамі і наша нацыянальнае свята -- 25 сакавіка, спачатку ў Беларускім доме ў Мельбурне, а потым у Сіднеі. Тут гэта дазволена, і паліцыя не разганяла дубінкамі беларусаў за тое, што сабраліся святкаваць. І гэта выглядала незвычайна, бо зусім па-іншаму адбывалася свята ў нашым родным Мінску. Мы гэта бачылі па аўстралійскім тэлебачанні. Кожны дзень раніцаю, у 10 гадзін, там можна глядзець праграму "Время" з Масквы, якая паказала шматлюдныя мітынгі ў Мінску 25 сакавіка і 2 красавіка. Усё гэта бачылі і нашы суродзічы, і прадстаўнікі іншых народаў -- рускія, украінцы, палякі. Распытвалі нас, выказвалі здзіўленне і спачуванне. Адным словам, атрымалі разгалос на ўвесь свет. Што ж, пры цяперашніх сродках інфармацыі нічога не схаваеш.

Наша падарожжа ў Аўстралію доўжылася больш як тры тыдні. Многа пабачылі цудоўных краявідаў, акіянскае ўзбярэжжа, горы, дзівосных жывёлін, найперш кенгуру і мядзведзікаў коала, экзатычных раслін. Сп. Антух нават завёў нас на велікодную ярмарку, якую тут называюць Іст-шоў. Гэта штогадовае свята для ўсяго Сіднея. Там выстаўляецца ўсё, што расце, гадуецца ці вырабляецца ў краіне. Кожны штат робіць сваю экспазіцыю, усё аформлена з вялікім эстэтычным густам. Хатнія жывёлы ўражваюць дагледжанасцю, парадзістасцю. Традыцыйныя для Аўстраліі гадоўля авечак, экспарт воўны. Тут жа і фірмы з усяго свету закупляюць яе. Але вырабы з воўны тут чамусьці дарагія. Разгаварыліся з адным з прадаўцоў воўны, спыталіся, ці ведае што пра Беларусь. У большасці такіх выпадкаў нам адказвалі, што не ведаюць. Але гэты малады чалавек упэўнена сказаў, што ведае, таму што ў нас добрыя спартсмены.

Але ўвесь гэты калейдаскоп дзівосаў не засланіў нашага галоўнага ўражання ад сустрэч і блізкага знаёмства з людзьмі -- аўстралійскімі беларусамі. Нядаўна мне давялося выступіць з лекцыяй перад студэнтамі на тэму беларускай эміграцыі. У канцы адзін малады чалавек спытаў, ці многа сярод замежных беларусаў былых паліцыянтаў, што служылі немцам. Відавочна, што на яго падзейнічалі прапагандысцкія захады фільма Ю. Азаронка. Гэтае пытанне балюча адгукнулася ў маім сэрцы. Я ведаю цяпер амаль ужо кожнага свядомага беларуса ў эміграцыі, была амаль у кожным доме, ведаю лёсы людзей, як яны трапілі на чужыну. Прызнаюся, што мая душа ўжо з цяжкасцю вытрымлівае ўсю тую інфармацыю, якая назапасілася падчас маіх вандраванняў. Чыё сэрца можа вытрымаць увесь той боль, смутак і слёзы, якія я бачыла ў вачах многіх і многіх эмігрантаў. Большасць з іх заслугоўвае таго, каб апісаць іх асабістыя лёс. У кожным лёсе свой драматызм, свае несправджаныя надзеі і скалечаныя жыцці.

Спадзяемся, што некалі будзе напісана такая кніга з кароткаю назвай "Эміграцыя" пра ўсіх беларускіх выгнанцаў, праўдзівая кніга, якая разбурыць прапагандысцкія штампы і пакажа сапраўдную сутнасць гэтай старонкі нашай гісторыі.

Жыць паўстагоддзя на чужыне і захаваць сваю родную беларускую мову -- такі факт заслугоўвае ўсякай павагі. І я не магу не паважаць гэтых людзей і не м[illegible] не сказаць ім вялікі дзякуй [illegible]та.

Першае знаёмства з аўстралійскімі беларусамі адбылося ўжо ў аэрапорце ў Мельбурне. Сустракаць нас прыйшлі старшыня Каардынацыйнай рады Яўген Груша з жонкаю Надзяю, Алег Шнэк, Рыгор Шэйпак з жонкаю Вераю, Феафан і Ганна Корбуты, спадарства Стасевічы. Ад гэтай сустрэчы засталіся найлепшыя ўражанні. Потым яны ўжо прымалі нас у сваіх гасцінных хатах. Дом Алега і Ніны Шнэкаў стаў на час побыту ў Мельбурне своеасаблівою базаю для нашых сустрэч і новых знаёмстваў. Сп. Алег вельмі шчыра апекаваўся намі, нават зрабіў фотаздымкі, фільмы, каб нешта засталося на памяць. Шкада, што не засталі яго брата, які нядаўна памёр.

Так жа ўтульна адчувалі мы сябе ў хаце сямейства Яўгена і Надзеі Грушаў, якія ўжо многа гадоў аддана працуюць на грамадскай дзялянцы. Мяне асабіста прывеціў дом спадароў Корбутаў, дзе я пачувалася так утульна і прыемна. Цудоўная пявуння, вясёлая, прыгажуня Ганна Корбут такая ёсць таму, што мае ў хаце добрага гаспадара. Цікавыя размовы пра жыццёвыя дарогі мы вялі са сп. Стасевічам падчас побыту ў іх сям'і. Прыемнай была для мяне сустрэча з земляком Рыгорам Шэйпакам і спадарыняю Вераю. На святочных імпрэзах і дзелавых сустрэчах пазнаёміліся са старшынёй Цэнтральнага камітэта ў Вікторыі сп. Паўлам Гузам і сп. Сідарэвічам, што так многа зрабілі дзеля таго, каб трымаць беларускую справу ў Мельбурне. Мелі прыемнасць пазнаёміцца са сп. А. Грыцуком і яго жонкаю, а таксама са спадарамі Русаком, Тарашкевічам, Малочкам, сустрэцца са сп. Яшчанкам, з якім знаёмая яшчэ з Мінска. Запомнілася гутарка са сп. Зінаідаю Кадняк, удавою знакамітага паэта Алеся Салаўя, былі каля яго помніка на могілках, размаўлялі пра архіў паэта.

Развітанне з беларускаю грамадою ў Мельбурне было вельмі сумным. Усе прыйшлі праводзіць нас у аэрапорт. Мы шчыра пасябравалі і пакідаць ужо стаўшых нам блізкімі людзей было цяжка. Суцяшала толькі надзея на новыя сустрэчы.

Наперадзе чакалі нас новыя знаёмствы. З Мельбурна да Сіднея ўсяго адна гадзіна лёту. І мы ўжо ў новым цудоўным горадзе, які хутка стане таксама блізкім нам, бо тут жа ў аэрапорце мы бачым добра знаёмага нам кіраўніка беларускай суполкі ў гэтым горадзе сп. Міхася Лужынскага, з якім мелі нагоду пазнаёміцца яшчэ на з'ездзе беларусаў свету ў Мінску. З ім сустракаць нас прыйшлі таксама Мікола Антух, намеснік спадара Лужынскага па грамадскай працы, Міхась Ціхан і Міхась Ляўдор. У Сіднеі нашым прыстанкам стала гасцінная хата Міколы і Валянціны Антухоў. Сп. Мікола родам з Паставаў. Ён моцна трымаецца сваёй беларускасці і доўгія гады ўзначальваў Беларускі клуб. Нават пражыўшы доўгі час на чужыне, ён захаваў аблічча і характар узорнага беларускага гаспадара. Разважны, руплівы, умелы. Міжволі падумалася, каб як мага больш такіх людзей засталося ў Беларусі, жылі б мы зараз па-іншаму, багацей і заможней. Адпаведна гаспадару і руплівая, працавітая, вельмі гасцінная гаспадыня -- спадарыня Валянціна. Успамінаем з удзячнасцю яе клопаты пра нас, што патрабавалі нямала сілаў і часу.

Узоры добрага гаспадарання і гасціннасці па-нашаму, па-беларуску, бачылі мы і ў сядзібе спадароў Лужынскіх у ваколіцах Сіднея, а таксама і ў спадароў Савановічаў, якія так даглядаюць свой дом і сад, што яго ў якасці лепшага паказваюць прыезджым турыстам.

Шчыра ўдзячная я спадару Аляксандру Бакуновічу, які быў маім прывeтным гаспадаром некаторы час. Сям'я Бакуновічаў -- вядомая ў беларускім замежжы. У Сіднеі жыве яшчэ сястра Ліза, брат Мітрафан, а брат Уладзімір, на жаль, ужо памёр.

З укладам жыцця тыповага англельскага каланіяльнага дому пазнаёміліся мы дзякуючы запросінам у госці да спадара Міхася Мілеўскага і яго жонкі Пэт, чые продкі ўжо даўно пасяліліся ў Аўстраліі. Сп. Мілеўскаму мы асабліва ўдзячныя за перададзеныя ім відэакасеты. Ён многа перажыў у вайну. Быў вязнем канцлагера Дахау.

**Ганна СУРМАЧ,**
**старшыня Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".**

**Працяг. Пачатак у N 27.**








**НА ЗДЫМКАХ: Беларускія могілкі ў Мельбурне. Аўтар каля магілы Алеся САЛАЎЯ; аўстралійскія беларусы СІДЛЯРЭВІЧ і Я. ГРУША; святкаванне 25 Сакавіка ў Беларускім доме ў Мельбурне.**

# "НАШ ЖУРБОТНЫ ШЛЯХ ПРАЦЯГВАЕЦЦА..."



**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Аднак праз некаторы час у пісьме да жонкі Дубоўка ўжо піша: "Как и прошлый раз -- ничего конкретного не предъявлено. Почему-то мне кажется, что все это в связи с выборами. Возможно, что после выборов и отпустят. Сюда я привезен как следственный, никакого решения нет, но вполне возможно, что дадут и срок..."

Пасля апошняга арышту і жорсткага прысуду нават маці Уладзіміра Мікалаевіча раіла Марыі Пятроўне развесціся з мужам, каб захаваць сябе і сына. Але і тут Марыя Пятроўна застапася вернай сабе і мужу. Яна нават думкі не дапускала аб здрадзе, старалася хоць нечым аблягчыць жыццё мужа, калі не матэрыяльна, дык хоць маральна, цярпліва чакала яго ўсе 10 гадоў, пісала, спала пасылкі, з трывогаю чакала пісьмаў ад мужа і атрымлівала іх, наперакор усім перашкодам. Уладзімір Мікалаевіч нават з дарогі знаходзіў магчымасць паслаць жонцы вестачку, трывожыўся аб сям'і, даваў парады.

Прапануем увазе грамадскасці астрожныя пісьмы Уладзіміра Мікалаевіча, якія захоўваюцца ў асабістым архіве пісьменніка ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Беларусі. Яны датуюцца 1937—1947 гадамі. Першыя два пісьмы напісаны неўзабаве пасля чэбаксарскага арышту 1937 года з Алатырскага лагера. Апошняе, датаванае 23 жніўня 1947 года, адпраўлена ўжо з Зугдзідзі (Грузія), дзе Уладзіміру Мікалаевічу было дазволена жыць пасля адбыцця тэрміну пакарання. Неўзабаве да яго пераехала і Марыя Пятроўна. Здавалася, нарэшце ўжо і да іх прыйшло хоць невялічкае шчасце. Але, на жаль, гэта быў толькі прывід шчасця. У лютым 1949 года Уладзімір Мікапаевіч быў зноў арыштаваны і на гэты раз пажыццёва сасланы ў Краснаярскі край, куды пераехала і Марыя Пятроўна. Там яны пражылі аж да 1958 года. Толькі пасля рэабілітацыі Дубоўкі яны зноў вярнуліся ў Маскву.

Пісьмы гэтыя на рускай мове, бо па-беларуску, відаць, пісаць зняволеным забаранялася, каб не было магчымасці напісаць якую крамолу. Праўда, беларуская лексіка ў іх усё роўна прарывалася, не магла не прарывацца. Яны міжволі суровыя, стрыманыя, ды і што можна было пісаць у гэтых пісьмах, якія, вядома ж, скрупулёзна прачытваліся, вывучаліся цэнзурай і ў выпадку чаго падазронага проста не адпраўляліся. Дарэчы, у адным з пісьмаў Уладзімір Мікалаевіч сам тлумачыць гэту стрыманасць: "Ты ведь хорошо знаешь, как я ужасно не люблю, не терплю писать из тюрьмы, из лагеря о том, что дорого моему сердцу. Ведь сколько рук проходит этот клочок бумаги...". Амаль што ў кожным пісьме да жонкі Уладзімір Мікалаевіч прасіў, каб яна не пісала нічога лішняга, бо любое лішняе слова магло пашкодзіць, магло паслужыць прычынай, каб прадоўжыць тэрмін зняволення або нават каштаваць жыцця. Але яны ўсё роўна цікавыя як дакумент эпохі, як сведчанне часу. Яны яскрава малююць жыццё Дубоўкі ў сталінскіх лагерах.

Усяго ў архіве паэта захаваліся 34 пісьмы да жонкі з лагераў і этапаў. Калі ўчытваешся ў змест гэтых пісьмаў, то бачыш, што шмат якіх пісьмаў тут не хапае: яны або не дайшлі да адрасата, або не захаваліся. Так, напрыклад, за 1940 год знаходзім толькі адно пісьмо з Бірабіджана, напісанае 17 лютага, наступнае пісьмо датавана ўжо 22 снежня 1942 года. За 1943 год пісьмаў да жонкі ўвогуле няма.

Захаваліся ў архіве і Дубоўкавы лісты, адрасаваныя маці Анастасіі Іванаўне (жыла ў Маскве) і адзінаму сыну Аліку, які трагічна загінуў (патануў) улетку 1943 года. Яны істотна дапаўняюць перапіску паэта з жонкай. У некаторых пісьмах паэт звяртаецца адразу да ўсіх блізкіх.

Большасць пісьмаў напісана на паштовых картках простым алоўкам, таму частка тэксту дрэнна захавалася і з цяжкасцю чытаецца. Частка пісьмаў перадавалася Марыі Пятроўне пры аказіі.

Між іншым, падобных пісьмаў ахвяр..ў ГУЛАГа ўвогуле дайшл... нашага часу няшмат. У ...сы агульнага страху і падазронасці адрасаты нярэдка іх знішчалі. Заслуга Марыі Пятроўны яшчэ і ў тым, што яна захавала гэтыя пісьмы для гісторыі.

**...іна КІСЯЛЁВА.**

*(без даты)*

Дорогая Марилька!
Как и прошлый раз -- ничего конкретного не предъявлено. Почему-то мне кажется, что все это в связи с выборами. Возможно, что после выборов и отпустят. Сюда я привезен как следственный, никакого решения нет, но вполне возможно, что дадут и срок. Все это должно выясниться не позже 1 января. Если к этому сроку меня отсюда угонят -- тогда уж, конечно, надолго. То, что тебе сказали про лагерь, -- пожалуй несерьезно. Вообще на эти темы не разговаривают. Я сам видел свою фамилию в списке, озаглавленном "Следств.-заключ.", направленном сюда вместе с нами, хотя одновременно везли и осужденных. Здесь, в общем, не плохо. Хорошо то, что дают возможность гулять сколько хочешь, с утра и до вечера. Если будет ехать Зося к мужу -- пришли через нее плащ, я его буду надевать на пальто, чтобы сохранить пальто. От нее же узнаешь и про меня. Если в эти два-три дня не угонят с очередным этапом, тогда больше вероятности, что мое предположение верно. Во всяком случае про меня не горюй, здоровье пока хорошее.

Целую тебя. Я не думал, что тебе пришлось так тяжело. Очень рад, что ты учишься. Если меня угонят -- попробуй взыскать с НКВД книги, рукописи и документы. Целуй сына.

**Твой Владимир.**

*24.XII.37*

Дорогая Марилька!
Сегодня или завтра, во всяком случае очень скоро, уезжаем с Игнатом на ўсход, по всей видимости до того пункта, где живет брат старший. В связи с этим сюда не езди, ничего не шли. С места назначения напишу. Постарайся распрощаться с Чебоксарами и уезжай куда-либо, где сможешь жить, работать и растить сына. Срок не объявлен пока, но, очевидно, малым не будет. Жалею, что не смог лично повидать тебя и сына, целую. Желаю от души всего, всего наилучшего. Привет от Игната. Целую.

**Уладзімір.**

С дороги вряд ли сумею написать, поэтому не волнуйся, если долго не будет писем.

Передай в поликлинику зуб(ному) врачу Данилович, что ее муж Игнатий Данилович едет вместе по одному маршруту.

*29.XII.37*

Дорогая Марилька!
Пишу тебе третье письмо, не знаю, получишь ли их. Едем, едем... При самых хороших обстоятельствах приедем к месту назначения месяца через полтора. Возможно, что к этому времени ты уедешь куда, поэтому с места адрес свой сообщу на имя мамы. Пока здоров. Думаю, что здорова и ты с сыном. Я теперь только и думаю о том, как бы вы оба сохранили себя при таких обстоятельствах. Хотя от Нового Года нам ничего хорошего ждать нечего, все же от всего сердца желаю тебе и сыну возможного добра, доли. Поцелуй за меня Алика. Алик, сынок! Помогай мамочке, будем надеяться, что когда-либо встретимся опять.

Целую вас обоих.

**Уладзімір.**

*1.I.38*

Дорогие Марилька и Алик!
Едем, едем... Только и заботы, только и думушки о вас, мои родные. Право, ранили сердце очень умело. Думаю все же, надеюсь, что и вы, и я в конечном итоге выйдем из этого тяжелого положения, а я из незаслуженной пакуты. В пути я ни в чем не нуждаюсь. Очень пригодились пиджаки, плащ, пальто. Хотя ты тогда намучилась с передачей, но зато я с падзякай вспоминаю тебя по многу, многу раз. Если бы не такой скорбный шлях, ехать было бы очень интересно. Сижу у самого окошка. Все новые виды, пошли отроги Урала. Поцелуй от меня сына, желаю вам возможного в наших условиях шчасця. Шануй сябе, родная.

**Уладзімір.**

*1.I.38*

Дорогая мама!
Поздравляю тебя с Новым Годом и желаю, чтобы ни остальные сыны твои, ни внуки не знали того счастья, какое досталось на долю мою. Не объявлено мне ничего, но, по слухам, на 10 лет еду к Хабаровску. Понятия не имею, за что. Когда приеду, а это будет не раньше, чем через месяц, напишу адрес. Тебя попрошу об одном -- если в тяжкую часину обратится моя Мариля -- как-нибудь помогите ей с сыном. Надеюсь, что когда-либо сумею аддзякаваць. Целую тебя и бацьку.

**Уладзімір.**

*6.I.38*

Марии Петровне Дубовка,
ул, Ленина, д. 32.

Дорогая Марилька!
Проехали Тюмень. Наш скорбный путь продолжается...

Очень жалко, что не получил от тебя ни одного письма в Алатыре. Полагаю, что ты писала. Из Алатыря я писал тебе раза два, в дороге -- раза три-четыре. В дальнейшем буду писать и на маму, с тем расчетом, что она перешлет ...е, если ты уедешь или уез...ешь из Чебоксар. Не знаю, что и советовать тебе, поскольку я так оторван от жизни. Надеюсь, что ты сама справишься неплохо. Желаю доброго здоровья тебе и Алику. Я пока здоров. Дорога очень ...ересная, если бы смотреть ...нее из более широкого окошка, не снабженного железными полосами. Привет тебе, дорогая. Поцелуй за меня сына. Надеюсь, что он хорошо учится, что он помогает тебе -- как хороший мой сын.

Целую вас крепко, крепко.

**Уладзімір.**

Люди бывалые говорят, что раньше в лагере попадали такие работы, на которых можно было заработать и в помощь семье. Буду очень рад, если это случится и если хоть чем смогу помочь вам. Не знаю, писал ли тебе, что мне не только не объявлено, за что меня карают, но даже срок не объявлен, и только лишь начальник конвоя на мой вопрос процедил -- "десять!" Вот как!

**Уладзімір.**

*12.I.38*

Дорогая мама!
Доехал до Омска. Дальше, как будто, поедем быстрее. Вполне здоров. Не лучше ли жене с сыном переехать на три-четыре месяца в Москву. Но для этого надо, чтобы вы помогли ей где-либо у знакомых найти комнату небольшую на это время. Она бы закончила Институт языков, а то, я думаю, за это время ее в Чебоксарах совсем изведут. Но я пишу об этом как предположение. Возможно, что она сама или с вашим советом придумает что-либо лучшее. Привет вам с пожеланием всего хорошего.

**Уладзімір.**

*12.I. 38*

Дорогая Марилька!
Едем, как видишь, не спеша. Говорят, что отсюда пойдем несколько быстрее. Вчера были здесь в бане. Вполне здоров, вопреки погоде и умовам жыцця. Я уж тебе писал, единственная забота о тебе и сыне. Самое лучшее -- это переехать тебе куда. Но встает вопрос -- куда и как. Возможно, что, б(ыть) м(ожет), посоветуют родные. Если бы у них не такие идиотские условия с квартирой, могла бы на полгода перебраться к ним, кстати, закончить Ияз. Попробуй разузнай и в этом направлении. Я думаю, мне не объявили ничего (хотя и многим) для того, чтобы избавиться от жалоб, кассаций и т.п. Привет, дорогая. Целуй сына

**Уладзімір.**

Возможно, у кого из знакомых найдешь на полгода комнату.

*14.I.38* Кажется, поедем дальше. На всякий случай добавляю эти строчки. Вспоминаю, что сегодня исполнилось 10 лет нашей несчастливой совместной жизни. Целую тебя.

**Уладзімір.**


1/I 38 5

Дорогие Марилька
и Алик!

ПОЧТОВАЯ КАРТОЧКА
CARTE POSTALE

Куда: Чебоксары, ЧАССР
ул. Ленина, д. 32
Кому: Дубовка
Марии Петровне

Адрес отправителя
Adresse de l'expéditeur
Проездом, ст. Красноуфимск

**НА ЗДЫМКАХ: У.ДУБОЎКА з жонкай. !927 г.; ліст да жонкі і сына.**

**Публікацыю падрыхтавала Яніна КІСЯЛЁВА.**

## ЧОРНЫ БОЛЬ

**Многія з юных мастакоў Магілёўшчыны і не ведаюць, як гэта адбылося: ім не больш дзесяці гадоў. Але слова "Чарнобыль" трывала замацавалася ў іх лексіконе. Сэнс чарнобыльскай трагедыі яны добра разумеюць. Многія з іх равеснікаў ужо заплацілі за Чарнобыль сваім здароўем, для многіх патухла радаснае святло дзяцінства. Таму і малюнкі іх такія рэалістычныя.**






# МУЖНАСЦЬ І ДАБРЫНЯ ЯЎГЕНІЯ КЛУМАВА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Здавалася б, што можна яшчэ жадаць: уласная кватэра ў Маскве, жонка, любімая прафесія, цудоўныя магчымасці для навуковай работы. Прафесар Мартынаў, у клініцы якога пасля заканчэння універсітэта Клумаў працаваў, рэкамендаваў здольнага маладога ўрача ў адну з маскоўскіх клінік. Аднак Клумаў адмовіўся і паехаў працаваць у вёску Суткова Рэчыцкага павета Мінскай губерні.

Маленькі домік, абсалютна не прыстасаваны для лячэння хворых, не гаворачы ўжо аб аперацыях. Але Клумаў, маючы вопыт правядзення аперацый у ваенных умовах і талент хірурга, лечыць беларускіх сялян, робіць складаныя аперацыі. З раніцы да ночы каля бальніцы чэргі, каб трапіць на прыём да доктара Клумава. 20 мая 1914 года яго перавялі ў Лоеўскую земскую бальніцу Рэчыцкага павета.

Земскі ўрач рабіў тады ўсё: лячыў хваробы сэрца, сухоты і рэўматызм, зашываў распоратыя віламі бакі і вырываў зубы, праводзіў іншыя аперацыі. Працуючы ў земскай бальніцы, Я. Клумаў праявіў сябе выдатным хірургам-клініцыстам. 21 студзеня 1916 года Мінскае губернскае праўленне прысвоіла Яўгенію Уладзіміравічу званне тытулярнага саветніка.

Першая сусветная вайна зноў паставіла Клумава да армейскага аперацыйнага стала. Аб тым, як ён працаваў у гэты час, сведчыць пісьмо са шпіталя, пасланае ў красавіку 1916 года ва ўрачэбнае аддзяленне Мінскага губернскага праўлення: "Мінскі шпіталь гонар мае ўведаміць урачэбнае аддзяленне, што малодшы ардынатар Яўгеній Уладзіміравіч Клумаў загадам Галоўнакамандуючага арміямі Заходняга фронту за выдатную службу ўзнагароджаны ордэнам Св. Ганны 3-й ступені".

На фронце Яўгеній Уладзіміравіч сустрэў Лютаўскую, а затым Кастрычніцкую рэвалюцыю. Як толькі была створана Чырвоная Армія, ваенны хірург Я. Клумаў уступіў у яе рады, прымаў удзел у баявых дзеяннях. З 1921 года працаваў у медыцынскіх установах Мінска. Асноўная навуковая і практычная дзейнасць Я. Клумава была звязана з 1-й Савецкай бальніцай (цяпер -- 3-й клінічнай), дзе ён працаваў 20 гадоў, прайшоўшы шлях ад радавога хірурга да прафесара Мінскага медыцынскага інстытута. Яўгеній Уладзіміравіч дапамагаў ствараць Мінскі медыцынскі інстытут, працаваў у ім і падрыхтаваў шмат выдатных спецыялістаў. У 1935 годзе Я. Клумаву прысвоілі ступень кандыдата медыцынскіх навук, а ў 1938 годзе ён атрымаў званне прафесара.

Урач В. Гурыновіч, прынятая ў 1939 годзе ў клініку, якой кіраваў Клумаў, успамінала: "Клініка прафесара Клумава стала для мяне другім своеасаблівым інстытутам. Жыццярадасны, поўны энергіі, нягледзячы на тое, што яму ў тыя гады было ўжо каля шасцідзесяці пяці гадоў, Яўгеній Уладзіміравіч аддаваў літаральна ўвесь свой час працы...

Да хворых Клумаў быў выключна ўважлівым, кожную цяжкахворую штодзённа аглядаў сам... Калі ж выдавалася вольная хвіліна, то вакол Яўгенія Уладзіміравіча было заўсёды шматлюдна. Просты ў абыходжанні, даступны, Клумаў любіў пажартаваць, пасмяяцца. Ахвотна заспяваў якую-небудзь песню".

Паводле ўспамінаў сястры яго жонкі В. Андрэевай, вялікай страсцю Клумава былі спевы і музыка, дома часта спяваў арыі з опер, пераважна гераічныя. З пісьменнікаў бліжэй за ўсіх яму быў Дастаеўскі. З паэтаў захапляўся Лермантавым. Яшчэ ў гімназіі Клумаў авалодаў англійскай і грэчаскай мовамі, удасканальваў свае веды ў нямецкай, французскай і беларускай мовах.

Клумавы не мелі сваіх дзяцей, але яны ніколі не былі ў адзіноцтве. У іх сям'і пастаянна хто-небудзь знаходзіўся на выхаванні: то пляменнікі, то пляменніцы, то чужыя маладыя людзі, да якіх Клумавы прывязваліся, як да родных. Дружная пара выкройвала сродкі і аказвала матэрыяльную дапамогу ўсім, хто, на іх думку, "падаваў надзею" і па іх патрабаванню паступаў на вучобу. Так яны многіх вывелі ў людзі. Я. Клумаў рэдка выязджаў на поўдзень да мора, свае водпускі праводзіў у асноўным у Беларусі. Для гэтага звычайна аблюбоўваўся і здымаўся дзе-небудзь у вясковай цішы дамок. Лес і грыбы Яўгеній Уладзіміравіч лічыў найлепшым адпачынкам.

З асаблівым нецярпеннем чакаў Яўгеній Уладзіміравіч летняга адпачынку ў 1941 годзе. Але адпачыць прафесару не прыйшлося: пачалася вайна. Дом, у якім кватаравалі яны, [illegible] ў у час бамбёжкі, загінула ўся маёмасць, і галоўнае -- тое, чым ён жыў: яго навуковыя працы, медыцынская бібліятэчка, любімыя кнігі. З болем у сэрцы пакідаў 65-гадовы прафесар ахоплены полымем, разбураны горад. Клумавы ўдваіх пешшу адправіліся на ўсход у бясконцай калоне бежанцаў. Але ўцячы ад акупантаў далёка не ўд[illegible]: на падыходзе да Мар'інай Горкі стала вядома, што нямецкія войскі ўжо наперадзе. І Клумавы вярнуліся ў Мінск, у сваю 1-ю клінічную бальніцу. Для іх хутка абсталявалі пакой на другім паверсе радзільнага аддзялення, забяспечылі хто чым мог -- коўдрамі, падушкамі, вопраткай, абуткам. Уся абстаноўка была з бальнічнага інвентару -- ложак, стол, табурэткі.

Вялікая Айчынная вайна была для Клумава чацвёртай па ліку. Як і раней, яго зброяй былі скальпель, дабрыня, сумленне. Ён ніколі не задаваў пытання: "Што я магу зрабіць для перамогі?" Рабіў усё, што мог, на што хапала сіл. Пасланцы партызанскіх атрадаў сустракаліся з прафесарам, выкладвалі яму патрэбы лясных шпіталяў, і ён рабіў усё магчымае, каб задаволіць гэтыя патрэбы: атрымліваў на складзе марлю, вату, ёд, іншыя лекі і перапраўляў іх у лес.

Камісар партызанскай брыгады "Штурмавая" І. Фёдараў успамінаў такі выпадак. У баі з праціўнікам быў ранены і ў непрытомным стане захоплены гітлераўцамі камандзір роты атрада "За Айчыну" Сяргей Радчанка. Немцы рашылі захаваць яму жыццё, каб потым дабыць ад яго неабходныя звесткі. Аб гэтым Клумаў даведаўся з размоў фашыстаў каля ложка дастаўленага ў клініку партызана.

-- Любой цаной вы павінны вылечыць гэтага бандыта, -- папярэдзілі немцы прафесара. -- Любой цаной, чуеце? Інакш наракайце самі на сябе.

Але нягледзячы на ўсе старанні медыкаў, "бандыт", не прыходзячы ў прытомнасць, на наступны дзень памёр. У адказ на папрокі і пагрозы гітлераўцаў прафесар бездапаможна разводзіў рукамі.

-- Што мы маглі зрабіць? У даным выпадку медыцына аказалася бяссільнай.

А праз месяц уваскрэсшы з "мёртвых" Сяргей Радчанка глыбокай ноччу з дапамогай падпольшчыкаў непрыкметна пакінуў клініку і паспяхова вярнуўся ў свой атрад. Увесь гэты час лячылі яго ў клініцы, а замест раненага партызана падсунулі немцам узяты з морга труп.

Выратоўваючы моладзь ад вывазу ў Германію, урачы клінікі, якой кіраваў прафесар Я. Клумаў, накладвалі швы, часам рабілі несапраўдныя аперацыі і хавалі людзей у палатах да таго часу, пакуль не заканчвалася чарговая насільная адпраўка моладзі ў рэйх.

Яўгеній Уладзіміравіч выкарыстоўваў кожную магчымасць, каб вырваць з рук акупантаў людзей, якія папалі ў клініку, дапамагаў ім хутчэй уключыцца ў барацьбу. Кожную чарговую групу тых, хто паправіўся, гітлераўцы забіралі па спісу, дзе ставілі свае подпісы. Гэты спіс служыў для медыкаў дакументам руху хворых. Аднойчы такі спіс прынеслі Клумаву. Ён паглядзеў на паперу і пачаў выгаворваць урачам, што спіс не так састаўлены: подпіс зроблены блізка пад прозвішчамі тых, каго забіралі немцы ў лагер. Урачы перарабілі спіс так, як ён загадаў. Немцы распісаліся і павезлі ваеннапалонных. А ў спіс па распараджэнню Клумава той жа рукой дапісалі яшчэ некалькі прозвішчаў. Выратаваных такім чынам ад фашысцкай няволі з дапамогай падпольшчыкаў перапраўлялі ў партызаны.

Нягледзячы на пагрозу выкрыцця, Яўгеній Уладзіміравіч шпіталізаваў і лячыў раненых падпольшчыкаў і партызан, садзейнічаў уцёкам многіх з іх. Не раз лячыў хворых на канспіратыўных кватэрах. Так, у студзені 1942 года з партызанскага [illegible]да У. Нічыпаровіча быў накіраваны [illegible] Мінск камандзір роты лейтэнант Аляксандр Грачоў. Урач Марыя Піліпушка на кватэры Дуброўскіх (у драўляным доміку на Серабранцы) аказала яму дапамогу і разам з прафесарам Яўгеніем Клумавым наглядала за ім да таго часу, пакуль рана поўнасцю не зажыла і не зраслася косць. У ве[illegible]ні ў час сутычкі з фашыстамі быў цяжк[illegible]ранены падпольшчык Васіль Сайчык. Падпольшчыкі прывезлі яго ў бальніцу да Клумава. Яўгеній Уладзіміравіч аказаў Сайчыку патрэбную дапамогу, а затым арганізаваў яго ўцёкі. Не адзін раз прыходзіў прафесар да хворага на явачную кватэру, дзе той знаходзіўся, лячыў падпольшчыка.

Прафесійнае майстэрства прафесара Я. Клумава выратавала жыццё і камісару 85-й стралковай дывізіі Мікалаю Талкачову, многім іншым савецкім людзям. Пад кіраўніцтвам Я. Клумава цяжкую, але высакародную работу праводзілі медыцынскія работнікі ў так званых урачэбна-экспертных камісіях, якія працавалі 1--2 разы на тыдзень. Гэтыя камісіі разглядалі па 30--50 заяў і ў большасці выпадкаў устанаўлівалі людзям фіктыўную інваліднасць, што выратоўвала іх ад вывазу ў Германію. Многія з іх затым папаўнялі партызанскія атрады, храбра змагаліся з фашысцкімі захопнікамі.

Па ініцыятыве Я. Клумава ў 1-й гарадской бальніцы была арганізавана падпольная група. У яе ўвайшлі ўрачы і медыцынскія сёстры І. Вятохін, В. Гурыновіч, В. Кароль , А. Навіцкая, М. Піліпушка, В. Рубец, Ю. Сямашка, А. Сідаровіч і іншыя. Сюды дастаўляліся партызанскія лістоўкі, савецкія газеты і зводкі Саўінфармбюро, якія пасля распаўсюджваліся сярод хворых і насельніцтва Мінска.

Адным з бліжэйшых памочнікаў Яўгенія Уладзіміравіча быў прафесар-метэаролаг Анісімаў, які працаваў лабарантам у бальніцы. У сваёй "лабараторыі", у печцы, зрабіў нішу, схаваў туды радыёпрыёмнік. З гэтага часу вечарамі, калі ўвесь персанал, акрамя дзяжурных, разыходзіўся па дамах, сябры зачыняліся ў "лабараторыі" і слухалі голас Масквы, запісвалі звесткі Саўінфармбюро. Пасля вячэрніх радыёсеансаў Яўгеній Уладзіміравіч звычайна ішоў "дамоў", садзіўся за маленькі столік і доўга пісаў на чацвярцінках тонкай паперы. А на золку ён ужо быў на нагах, выходзіў у двор і з нецярпеннем чакаў прыходу таварышаў па службе. З блізкімі людзьмі, якім давяраў, вітаўся за руку, і пасля гэтага ў кожнага з іх у далоні заставаўся маленькі кавалачак спісанай паперы.

Многа хворых -- жыхароў Мінска і прыезджых з вёсак -- звярталася па дапамогу да Я. Клумава. Грошай для аплаты лячэння не было. У асноўным людзі стараліся аддзякаваць прафесара прадуктамі. У такіх выпадках яго жонка Галіна Мікалаеўна гатавала абеды на ўвесь персанал. Часта, прыходзячы на дзяжурства, работнікі паліклінікі знаходзілі ў сябе (на рабочым месцы) штонебудзь з ежы, пакінутае Яўгеніем Уладзіміравічам. Ён ніколі і нічога не шкадаваў для людзей.

Аб чалавечнасці прафесара гаворыць і такі факт. Прывезлі ў радзільнае аддзяленне з турмы парадзіху -- партызанку. У час яе знаходжання ў бальніцы немцы не адыходзілі ні на крок. Жанчына нарадзіла дзяўчынку. Праз некалькі дзён маці зноў адвезлі ў турму. Дзяўчынку медыкі пакінулі ў сябе.

Яўгеній Уладзіміравіч і Галіна Мікалаеўна вельмі прывязаліся да дзіцяці і няньчыліся з ёю, як з роднай дачкой. Яўгеній Уладзіміравіч даў ёй імя -- Танечка. Уважліва аглядаў яе, сачыў за кармленнем.

Знешне замкнуўшыся ў сценах бальніцы, ён ператварыў яе ў месца, дзе выратоўвалі жыццё падпольшчыкаў і партызанаў. Бальніца была і явачным месцам, і перасыльным пунктам сваіх людзей з горада ў лес. У выніку падпольшчыкам удалося выратаваць ад смерці камандзіра палка П. Шуцікава, ваенурача Селязнёва, камандзіраў Дурнаво, Цалаліхіна, Слаўскага і шмат іншых.

Усё гэта, натуральна, не магло застацца незаўважаным. Гітлераўцы западозрылі прафесара ў сувязі з партызанамі, пачалі сачыць за бальніцай, за Я. Клумавым, яго кватэрай. У кастрычніку 1943 года Клумаў і яго жонка Галіна Мікалаеўна, якая таксама прымала актыўны ўдзел у падпольнай дзейнасці, былі схоплены гестапа. Пра тое, як гэта адбылося, паведамляе ў сваіх успамінах Надзея Цвяткова, якая апынулася разам з ім у турэмнай бальніцы:

"Аднойчы я сустрэла ў калідоры прафесара Клумава. Я пазнала яго, падышла, разгаварыліся. Аказваецца, што сябра прафесара, чалавек, якога ён ведаў шмат гадоў, прыйшоў да яго і прапанаваў адправіцца ў лес, да партызан, а адтуль на самалёце ў Маскву. Прафесар з радасцю згадзіўся. У назначаны дзень ён з'явіўся ва ўмоўленае месца і быў схоплены гітлераўцамі. Прафесар трымаўся годна. Сваімі паводзінамі ён як бы дэманстраваў поўную пагарду да таго, што рабілі з ім гітлераўцы". То пагрозамі, то абяцаннямі фашысты спрабавалі прымусіць буйнога спецыяліста працаваць на іх. Але прафесар Клумаў катэгарычна адхіліў дамаганні фашыстаў.

Я. Клумаў не дажыў да вызвалення Мінска ўсяго некалькі месяцаў. 10 лютага 1944 года фашысты спалілі Клумава разам з жонкай у лагеры смерці Трасцянец.

Беларускі народ помніць і шануе гераічны подзвіг свайго слаўнага сына. Імем Я. Клумава названа 3-я клінічная бальніца Мінска. На будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Імя прафесара-патрыёта залатымі літарамі ўпісана ў гераічную гісторыю барацьбы нашага народа за свабоду і незалежнасць Радзімы. У маі 1965 года Яўгенію Уладзіміравічу пасмяротна было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

**Мікалай БАНДАРЭНКА,**
**вядучы навуковы супрацоўнік**
**Нацыянальнага архіва**
**Рэспублікі Беларусь,**
**кандыдат гістарычных навук.**

*НАЛЕЖАЦЬ І НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

# САЛАМЕЯ ДЗЕШНЕР

Гісторыю робяць мужчыны. Старонкі падручнікаў і навуковых прац перапоўнены мужчынскімі прозвішчамі. Здаецца, жанчыне ў гэтай сур'ёзнай рабоце не можа знайсціся месца. Але ёсць у чалавечым жыцці краіна, дзе жанчына -- гаспадыня, муза, натхніцелька, дзяячка і ўладарка. Гэта -- прыгожае мастацтва. На жаль, імёны мастачак, актрыс, пісьменніц, якія жылі і працавалі на Беларусі і якіх ведаюць нашы сучаснікі, можна пералічыць на пальцах. Што ж датычыць XIX стагоддзя, то, бадай што, толькі адна актрыса вядомая шырокаму чытачу -- Алена Маеўская, ды і то не з-за свайго таленту, а з-за прывязанасці да яе Уладзіслава Сыракомлі. А вось імя Саламеі Дзешнер ведаюць, пэўна, толькі спецыялісты-тэатразнаўцы ды гродзенскія краязнаўцы. Аднак гэтая жанчына з разнастайных прычын вартая, каб ёй прысвяціць асобную працу, хай не кнігу, дык хаця б гэты артыкул.

Канец XVIII стагоддзя на Беларусі быў адзначаны не толькі бурнымі падзеямі ў палітычным жыцці. Не менш значныя змены адбываліся і ў культуры. Пранікненне і распаўсюджанне на Беларусі ідэй асветніцтва несла з сабой узнікненне новых галін культуры, новых жанраў, сюжэтаў, тэм, ідэалаў. Новае аблічча набывае і тэатральнае мастацтва. На Беларусі ў гэты час побач з прыгоннымі магнацкімі тэатрамі з'яўляецца тэатр прыватнай антрэпрызы -- своеасаблівая форма буржуазнага прадпрымальніцтва на тэатральнай глебе. Узнікненне камерцыйнага тэатра павінна было адыграць рашаючую ролю ў лёсе гераіні гэтага аповяду.

Саламея нарадзілася ў 1759 годзе ў сям'і прыдворнага шпалерніка гетмана Браніцкага немца Адама Цешнера. Пазней, робячы свае першыя дэбюты на варшаўскай сцэне, маладзенькая актрыса вымушана была надаць бацькоўскаму прозвішчу больш польскае гучанне, змяніўшы першую літару. Дзяўчынка жыла ў доме Браніцкіх у Беластоку, і не выпадкова, што аднойчы яна трапілася на вочы другой жонцы гетмана Ізабэле. Ізабэла Браніцкая паходзіла з дому Панятоўскіх і даводзілася каралю Станіславу Аўгусту роднай сястрой. Гэта была вытанчаная, адукаваная, вельмі прывабная кабета, якую сучаснікі далучалі да невялікага сузор'я найпрыгажэйшых жанчын Рэчы Паспалітай. Ізабэла Браніцкая, нягледзячы на тое, што дзяўчынка мела ўласную маці -- Людвіку Цешнер, -- вырашыла стаць для яе апякункай і другой матуляй. Дзякуючы пані гетманавай, Саламея атрымала першакласную на той час адукацыю -- яна іграла на некалькіх музычных інструментах, акрамя роднай нямецкай і польскай, ведала яшчэ французскую і італьянскую мовы, прыгожа танцыла. Але найвялікшым багаццем прыгажуні Саламеі быў яе голас -- высокае, багатае сапрана, крыху металічнага гучання, вельмі моцнае і мілагучнае. Выхаванне, атрыманае дачкой шпалерніка ў доме сястры караля, на ўсё жыццё пакінула адбітак на постаці Саламеі Дзешнер. Калегі-акцёры, і ў першую чаргу знакаміты Войцех Багуслаўскі, падкрэслівалі, што Саламея заўсёды заставалася дамай "вышэйшага круга", з густам апраналася, ведала правілы добрага тону і прыдворнага этыкету.



Лёс маладзенькай дзяўчыны рэзка памяняўся ў 1776 годзе, калі ёй было толькі 17 гадоў. У госці да сястры ў Беласток прыехаў Станіслаў Аўгуст. Саламея чакала караля з нецярплівасцю, нават вышыла бісерам яму падушку. Кароль, убачыўшы Саламею, быў уражаны прыгажосцю і талентам дзяўчыны. Невядома, ці быў паміж імі раман, ці пачуцці прыстойнасці перамаглі. Так ці інакш, Станіслаў Аўгуст забраў дзяўчыну з сабой у Варшаву. У 1777 годзе, дзякуючы пратэкцыі караля, Дзешнер была прынята ў трупу Варшаўскага нацыянальнага тэатра.

Нацыянальны тэатр (Тэатр Народовы) быў адкрыты ў 1765 годзе. Спачатку ён быў блізкім па свайму характару да прыдворнага, але пасля ўвядзення ў 1774 годзе тэатральнай манаполіі, калі кароль ужо не мог адкрыта кіраваць гэтым тэатрам, Нацыянальны ўсё больш набывае рысы тэатра прыватнай антрэпрызы. У гэты час (з 1774 па 1778 год) ён [illegible] ходзіўся ў варшаўскім палацы Рад[illegible]аў, а затым пераехаў у спецыяльна пабудаванае для яго памяшканне, дзе была глядзельная зала на 1 300 чалавек і вялікая сцэна з некалькімі планамі куліс.

Дэбют Саламеі Дзешнер на варшаўскай сцэне адбыўся ў той час, калі тут за[illegible]заліся асновы польскага нацыянал[illegible]а тэатра, ставіліся першыя творы польскіх драматургаў. Ужо ў наступным 1778 годзе на варшаўскай сцэне дэбютаваў знакаміты Войцех Багуслаўскі -- выдатны драматург, спявак, акцёр, педагог, пісьменнік і рэжысёр. Лёс на ўсё жыццё звязаў Саламею Дзешнер з гэтым чалавекам. Войцех Багуслаўскі ў сваёй працы "Гісторыя Нацыянальнага тэатра" расказаў нашчадкам, апрача іншых падзей, і пра жыццё гэтай выдатнай актрысы. Яны неаднойчы выступалі разам у розных тэатральных калектывах, Багуслаўскі не хаваў свайго захаплення прыгожай і вельмі здольнай актрысай. Але ці кахаў ён яе? Хто ведае...

Вельмі хутка Саламея Дзешнер стала зоркай варшаўскай сцэны. Ролі, якія выконвала яна на сцэне варшаўскага тэатра, былі разнастайныя, але найбольш трывала замацавалася за ёю амплуа першай каханкі і субрэткі. У той час, калі сярод насельніцтва нават такога вялікага горада, як Варшава, тэатралаў было не больш за адну-дзве тысячы чалавек, акцёры вымушаны былі ўвесь час змяняць рэпертуар, амаль кожны дзень у тэатры ішла прэм'ера. Толькі п'есы, якія найбольш спадабаліся публіцы, маглі ісці на сцэне некалькі разоў. Зразумела, што ў такіх варунках не магло быць і гаворкі пра дакладную рэжысуру спектакляў. Часцей за ўсё рэжысёрам быў антрэпрэнёр ці хто-небудзь з вопытных акцёраў. Раніцай перад спектаклем размяркоўваліся мізансцэны, напярэдадні акцёры (калі гэта была аперэтка ці вадэвіль) вучылі партыі з музыкантамі, а затым працавалі з дапамогай суфлёра. Суфлёр у той час -- пасада неабходная ў кожным тэатры. Зразумела, што ў такіх варунках не было магчымасці псіхалагічнай прапрацоўкі вобраза. На дапамогу акцёрам і актрысам ішла сістэма амплуа -- некалькі замацаваных вобразаў-схем, пад якія можна было падвесці характары герояў амаль кожнай п'есы. Амплуа субрэткі звычайна замацоўвалася за маладой, увішнай, зграбнай дзяўчынай, паколькі вакол гэтай гераіні круцілася ўся інтрыга вадэвіля, камедыі або аперэткі. Адначасова з ролямі субрэтак Саламея выконвала партыі першых і другіх гераінь. У гэтым амплуа найбольшы поспех яна мела ў ролі Разіны ў "Севільскім цырульніку", Сюзаны ў "Вяселлі Фігара", іншых аперэтах і операх. У 1778 годзе Дзешнер выканала партыю Касі ў першай польскай нацыянальнай оперы "Ашчаслівуленая галеча", напісанай Ф.Багамольцам і В.Багуслаўскім з музыкай М.Каменскага. Дарэчы, разам з Саламеяй у оперы ігралі акцёры слонімскага тэатра Агінскага. Партыя Бландыны ў оперы "Шаленства ад кахання" прынесла ёй у 1779 годзе імя першай спявачкі польскай сцэны. На варшаўскай сцэне Саламея ігрconsidered з перапынкамі да 1796 года. Некалькі разоў актрыса пакідала Нацыянальны тэатр, выступаючы ў Львове, Вільні, Дубне. У 1784 годзе яна ўпершыню пабывала ў Гродне, куды на гастролі ў час пасяджэння сейма прыехала іх трупа пад кіраўніцтвам В.Багуслаўскага.

Талент Саламеі Дзешнер развіваўся, дадаваўся сцэнічны вопыт, чалавечая сталасць. Дыяпазон яе роляў значна павялічваўся. Ужо ў канцы 80-х гадоў "прыгожая Салуся", як яе называлі сучаснікі-тэатралы, выступала ў характарных ролях і нават у ролях-травесці, ствараючы вобразы хлопцаў.

Сваё саракагоддзе выдатная актрыса сустрэла ў Вільні, куды прыехала ў 1796 годзе па запрашэнню антрэпрэнёра Мараўскага. У той час на Беларусі, акрамя гэтай віленскай трупы, была толькі адна, якая [illegible]пугоўвала ўвагі таленавітай і вопыт[illegible]ктрысы -- трупа Кажынскага ў Мінску. Аматары гісторыі тэатра, пэўна, памятаюць, што менавіта гэтая трупа ўпершыню за ўсю гісторыю нашай сцэны адбыла гастролі ў Маскве і Пецярбургу. Але гэта ўжо іншая старонка гісторыі. На працягу пяці год С.Дзеш[illegible] выступала і ў Вільні, і ў Мінску [illegible] залежнасці ад прапаноў антрэпрэнераў.

Але наспеў час асталявацца. Маючы дваццацігадовы вопыт сцэнічнай дзейнасці, добрыя сувязі ў акцёрскім асяроддзі, добра ведаючы густы публікі і фінансавыя магчымасці ўласнай тэатральнай антрэпрызы, Саламея Дзешнер вырашыла заснаваць сваю трупу. Выбар яе паў на Гродна. Усё ў гэтым горадзе вабіла актрысу. Горад яшчэ з часоў езуіцкага тэатра XVII стагоддзя фарміраваў свае тэатральныя традыцыі. Тэатр Антонія Тызенгаўза заклаў тут пачатак свецкай сцэне, да таго ж прызвычаіў публіку, што за відовішча трэба плаціць. Пасляхова праходзілі ў горадзе над Нёманам гастролі Багуслаўскага. Нарэшце, горад быў адзіным на той час на Беларусі буйным цэнтрам (у хуткім часе губернскім), дзе быў спецыяльны тэатральны будынак. Гродзенскі тэатр быў закладзены яшчэ ў часы Тызенгаўза, у 80-я гады ён стаў уласнасцю горада. Пабудаваны па так званай "італьянскай крывой", тэатральны будынак нагадваў міланскі "Ла Скала" ў мініяцюры і выдатна падыходзіў да оперных пастановак.

Дзешнер прыехала ў Гродна ў 1801 годзе. Але, як аказалася, за права выступаць у горадзе трэба было спрачацца з антрэпрэнёрам Шыманскім, які таксама гасціяваў тады ў Гродне. Цяжкасці ўзніклі і ў сувязі з падборам акцёраў для трупы. Уменне плесці інтрыгі, што не раз праяўлялася ў Саламеі на сцэне, прыдалося ёй і ў жыцці. Жанчына ўмела дзейнічаць рашуча і не баялася пайсці на авантуру. Улетку 1801 года Саламея Дзешнер з дапамогай свайго знаёмага акцёра Асіцкоўскага пераманіла ў Гродна палову трупы антрэпрэнёра Навіцкага з Беластока. Асіцкоўскі прапанаваў акцёрам вышэйшую плату і тайна ўначы вывез спачатку двух "зорак", а за імі -- яшчэ шэсць. Нягледзячы на скаргі Навіцкага, уся гэтая дэтэктыўная гісторыя скончылася на карысць нашай гераіні. Галоўны аргумент у апраўданне гродзенскай дырэктрысы быў той, што Навіцкі не паспеў заключыць са сваімі акцёрамі пісьмовы кантракт.

Станоўча вырашылася і спрэчка з Шыманскім -- антрэпрэнёры пагадзіліся выступаць па чарзе, а праз некалькі месяцаў Шыманскі наогул з'ехаў на доўгатэрміновыя гастролі ў Навагрудак.

Тэатр Саламеі Дзешнер дзейнічаў у Гродне да 1809 года. Але апошнія гады -- ужо без сваёй заснавальніцы. За гэты час здарылася шмат чаго ў жыцці Саламеі. У 1802 годзе ёй давялося разам са сваімі акцёрамі выступаць перад Аляксандрам І, які прыехаў на святкаванне адкрыцця Гродзенскай губерні. Пэўна, акцёры і іх дырэктрыса спадабаліся імператару. З гэтага часу тэатральны будынак на дзесяць год быў аддадзены Дзешнер у карыстанне без усялякай аплаты ў казну, а ўсе свае прашэнні і паданні гродзенская антрэпрэнёрша падавала на імя імператара, ігнаруючы мясцовае начальства. Трэба сказаць, што прыхільнасць цэнтральных улад дазволіла Саламеі манапалізаваць самыя прыбытковыя ў той час гастролі ў Зэльве, адабраўшы гэтае права ў дырэктрысы віленскага тэатра Мараўскай.

Рэпертуар трупы Дзешнер вызначаўся разнастайнасцю. Значную частку займалі камедыі і камедыі-оперы, большай часткай перакладныя. Ставіўся вельмі модны ў той час Паізіела, Шміт, ігралі Мальера, п'есы польскіх аўтараў, найперш Войцеха Багуслаўскага. Унікальным уяўляецца факт пастаноўкі трупай Дзешнер п'есы Капніста "Паклёпнік" ("Ябеда") у 1804 годзе. Справа ў тым, што гэтая п'еса рускага аўтара была адной з першых, якую ў пачатку 90-х гадоў XVIII стагоддзя забараніла царская цэнзура. Капніст вымушаны быў некалькі разоў перапрацоўваць свой твор, каб яго дазволілі паставіць. Затым гэтую п'есу пераклаў на польскую мову віленскі драматург, тэатральны дзеяч Бонча-Тамашэўскі. Магчыма, п'еса Капніста -- першая з расійскай драматургіі, пастаўленая на захадзе Беларусі. І, мабыць, пастаўлена яна была, зважаючы на змест, не без палітычных прычын. Менавіта так у 50-я гады на Беларусі і Літве ігралі гогалеўскага "Рэвізора", паказваючы найбрыдшыя рысы расійскага грамадства.

Саламея Дзешнер памерла ў 1806 годзе раптоўна, у росквіце таленту. Хавала яе ўся тэатральная грамадскасць. Войцех Багуслаўскі ў сваіх мемуарах згадваў, што праводзіць актрысу ў апошні шлях выйшлі ўсе гродзенскія аматары тэатра, прыехалі і з навакольных маёнткаў і мястэчак.

Дзе пахавана першая дырэктрыса гродзенскай сцэны, сёння, на жаль, цяжка ўстанавіць. Вядома, што недзе ў Гродне. Аўтарка гэтых радкоў беспасляхова старалася адшукаць яе магілу. На старых каталіцкіх могілках пахаванні тых часоў ужо не маюць надпісаў, а дакументаў бракуе. Магчыма, Саламея была лютэранкай, як большасць нашых немцаў. Але ж пратэстанцкія могілкі пасля вайны былі зруйнаваны і на іх месцы пабудаваны дзіцячы сад. Ды душа Саламеі, без усялякіх сумненняў, жыве ў будынку старога гродзенскага тэатра, што на плошчы Тызенгаўза.

**Святлана СЯЛЬВЕРСТАВА-КУЛЬ,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**дацэнт.**

*ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

## ЧЫТАЮ Ў ДЗЕНЬ ПА СТАРОНЦЫ

Прывітанне вам усім, дарагія мае!

Вось учора ў мяне было многа радасці: нарэшце чарговы нумар "Голасу Радзімы" прыйшоў на мой цяперашні адрас. А гэта значыць, што не трэба браць таксі (бо маю хворыя ногі) і ехаць па газету на кватэру, дзе жыла раней. Таксі каштуе дорага, але без газеты я не магу. "Голас Радзімы" -- нібы кавалачак маёй Беларусі, якая заўсёды са мной. Чытаю не адразу, а пакрысе -- адну старонку ў дзень, каб расцягнуць радасць. Гэтым і жыву -- лісты ад родных ды ваша газета.

Вялікі вам дзякуй. Заўсёды ваша

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

г.Мілан, Італія.

## ЯК МНЕ БЫЦЬ?

Узрадаваўся, калі прачытаў у N 24 "Голасу Радзімы", што можна вам перасылаць грошы на падтрымку газеты. І вось ужо не першы раз пайшоў на Львоўскую галоўпошту, каб пераслаць вам адкладзеную на такую мэту суму. Ды дзе там! Як і на пачатку года, мне адказалі: перавесці грошы ў Беларусь немагчыма: проста не дазволена. А ў пункце падпіскі заяўкі на беларускія выданні не прымаюцца.

Дык як мне быць?

Мы, беларусы Галічыны, вельмі ўдзячныя, што вы дасылаеце нам "Голас Радзімы", бо нас цікавіць жыццё на Бацькаўшчыне, падзеі, якія там адбываюцца.

З вялікай павагай ваш прыхільнік

**Анатоль КАЖАРСКІ.**

г.Львоў, Украіна.

ГАРТАЮЧЫ ЗБОРНІК ВЕРШАЎ Н.ГАЛЬПЯРОВІЧА

# УТУЛЬНА НА... "ВОСТРАВЕ ДУШЫ"

Магчыма, Навум Гальпяровіч друкуецца не так і часта. Хоць, калі разважыць, а ці можа быць крытэрыем паэзіі (ды і літаратуры ўвогуле) колькасць публікацый, выдадзеных кніг? Ці не губляецца пры гэтым мастакоўская якасць, ці не ператвараецца творчасць у нейкі канвеер? Праўда, і ў гэтым разе можна запярэчыць... А хіба нямала творцаў, якія пішуць вельмі шмат і пры гэтым заўсёды вабяць свежасцю радка, непаўторнасцю вобразаў?

Відаць, усё ж да кожнага аўтара неабходна падыходзіць, як кажуць, чыста індывідуальна. Прымаючы пры гэтым адметнасць яго почырку, не забываючы, наколькі ён здатны асэнсоўваць рэчаіснасць ва ўсёй яе шматграннасці. Бо калі паэт сапраўдны -- ён ужо само сабой асоба.

А што Н.Гальпяровіч належыць да гэтай катэгорыі творцаў, пераканала яго папярэдняя кніга "Брама", якая выйшла ў 1990 годзе. Менавіта з таго зборніка пачаўся адлік аўтарам набыткаў, якія і сёння, і заўтра, і паслязаўтра не страцяць сваёй важкасці. Тым больш набыццё ўласнага голасу адчувальна ў новай кнізе паэта "Востраў душы", што летась пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура".

Ёсць у зборніку верш, які, як на маю думку, можна паставіць да кнігі эпіграфам, бо ён свайго роду праграмны: у ім разуменне Н.Гальпяровічам і самой паэзіі, і прызначэння яе ў наш неспакойны час. І не толькі паэзіі, а і слова ўвогуле. Не будзем жа забываць: спачатку было слова. А слова паэта, творцы -- гэта ўжо і ўчынак. Безумоўна, калі яно важкае, напоўнена значным сэнсам і прамоўлена таленавіта:

**Яблыкі з воску --**
**цудоўны падман --**
**Лягуць на сподак**
**прыгожаю горкай.**
**А паспрабуй -- ні салёна,**
**ні горка.**
**Войкнеш зянацку: балюча зубам.**

**Ведаў бы хто, як баюся пачаць**
**Сціплы свой запіс у**
**сшытку чарговым:**
**Што, калі слова, бы яблык васковы,**
**Выгляд займее, а смаку не дасць!**

"Востраў душы" -- паэтава жаданне адшукаць менавіта такія словы, якія, вобразна кажучы, можна пакаштаваць на смак. А яны, як вядома, набудуць сваю важкасць і патрэбнасць толькі ў тым разе, калі сказанае будзе несці ў сабе споведзь лірычнага героя, яго стаўленне да свету і людзей, ягоную неабыякавасць да самых розных рэалій паўсядзённасці. А напачатку важна, каб мастак сам упэўніўся, ці мае ён права гаварыць ад імя іншых, ці пераступіў ён тую мяжу, якая аддзяляе звычайнае рамяство ад творчасці жывой, дасканалай, непаўторнай. Інакш, калі табе не ўдаецца своечасова зрабіць гэты крок, спыніся, адумайся. Лепш раней, чым позна. І для цябе самога, і для іншых.

Як у сувязі з гэтым не прыгадаць верш "*** Рамеснік! Ён хацеў быць мастаком!..". А калі хацеў, дык і імкнуўся да гэтага: "Ён гліну мяў, ён спаць не мог начамі,// Ён не вылазіў з нізенькай ганчарні?// І хлеб мачаў у глечык з малаком". Яму хацелася сцвердзіць сябе. Яму прагнулася той дасканаласці, што была наўкола: "Рабін чырвоных палымнеў пажар,// Халодным золатам ірдзелі пожні.// Ва ўсім было жыццё, была душа". А ці ёсць тая непаўторнасць у тым, на чым адчуваецца дотык яго рук і што нараджаецца ад гэтага судакранання з глінай? Вынік быў нярадасным, "... і гэта ён адчуў бездапаможна".

Заключная страфа ў творы вабіць той выключнай праўдзівасцю, што спалучаецца з бескампраміснасцю ў стаўленні да звычайнага рамесніцтва:

**Ён чарапкі раструшчыў**
**малатком,**
**Згубіўшы рэшткі веры, моцы, волі...**
**Рамеснік! Ён хацеў быць мастаком.**
**Ды разумеў, што ім не быць ніколі.**

Паэзія Н.Гальпяровіча пра тое, чым сёння жыве большасць з нас. Ва ўсякім разе пра тое, што не можа не турбаваць чалавека сумленнага і чалавека нацыянальна свядомага, які пастаянна памятае пра свае карані і якому балюча, калі знаходзяцца людзі, гатовыя парушыць заканамерную повязь часоў, па няведанню, а то і па злому жаданню адмовіць тое, без чаго і чалавек не чалавек, і народ не народ. А як няпроста зразумець, што і да чаго. Няпроста, ды патрэбна.

Пра гэта таксама адзін з вершаў кнігі: "Далёкага стагоддзя зык//Хто сёння зразумее?//Вісяць старыя абразы//Па сценах у музеі.// І праз суровы жорсткі час/ [illegible]івых вякоў залевы//Глядзяць апо[illegible] на нас//З акладаў ацалелых". [illegible] далей у творы лірычны герой ужо не проста сузіральнік і назіральнік. Ён адначасова і асоба дзейсная, актыўная, якая не можа не выказаць свайго стаўлення да гэтага. Але ён не толькі сам выказвае, а і нас прымушае [illegible]іць гэта:

**І гэткай вераю гарыць**
**Вачэй гарачых ззянне,**
**Што не змаўчаць і не змяніць**
**На іхнія пытанні.**

І ўвогуле лірычны герой Н.Гальпяровіча -- чалавек душэйны, якому, як кажуць, баліць за ўсіх і за ўсё. Гэта асабліва тычыцца вершаў, у якіх закранаюцца далёка не лепшыя рэаліі нашай паўсядзённасці. Ужо чаго-чаго, а гэтага стае! Ні для кога ж не сакрэт, што памянела дабра, справядлівасці і людзі сталі нейкія азлобленыя, агрэсіўныя. І што самае страшнае -- усе гэтыя бядоты і згрызоты кранаюцца кволых дзіцячых душ: "Плача хлопчык: маці не прыйшла,// А ў суседзяў часу не хапае.//Маці, яна добрая, не злая,//Толькі б вось гарэлкі не піла".

Не можа герой паэта не задумвацца над пражытым, не даваць яму ацэнку. Што ж, узрост такі, калі ёсць падстава паразважаць над многім, каб не толькі асэнсаваць яго, а і пераасэнсаваць: "Памаўчым пасля гарбаты//За абедзенным сталом.//Што ж рабіць? Ужо не свята//Стукаецца ў гэты дом". Ды і хіба не да тужлівасці? -- "Памаўчым. Пакуль не вечар!.. Хоць і прыцемак ужо..."

І, вядома ж, не абыходзіць Н.Гальпяровіч тэмы кахання, а яго лірычныя вершы, што закранаюць свет пачуццяў двaіх, надзвычай прачулыя, сонечныя і шчырыя. А яшчэ мясцінамі прысутнічае ў іх тая засяроджанасць, што мяжуе з пэўнай мройнасцю, нават нейкай самотлівасцю. Але не ад таго, што нешта не ўдалося, штосьці адбываецца зусім не так, як таго хацелася б, а ад вялікай сілы пачуцця, якое і патрабуе адэкватнага заглыблення ў самім сабе, каб затым, праз гэтае заглыбленне і засяроджанасць настроіць сябе на тую хвалю, на якой чуецца біццё сэрца блізкага табе чалавека:

**Ты не спіш! Навошта так!..**
**Не пакутуй, будзе ранне.**
**Боль у новым дні растане,**
**Як туман і немата.**

**Так сказаць бы я хацеў,**
**Толькі сам сабе не веру.**
**Змрок ахутвае кватэру,**
**І на сэрцы чорны цень.**

**І стаіць такая ціш,**
**Што нібыта ўсё памерла.**
**І тугой сціскае горла**
**Ад таго, што ты не спіш.**

Я не хачу сцвярджаць, што ўсё ў новай кнізе Н.Гальпяровіча бездакорна. Можна знайсці ў ёй і радкі груваcткія, якія, як кажуць, [illegible]эжуць слых сваёй ускладненасцю ([illegible] прыкладу: "...ты пакахала істотай [illegible]крытай гаспадара", верш "Скрыпка"). Можна напаткаць і твор, у якім адсутнічае менавіта сваё (узяць хоць бы верш "Аблава", што падаецца як "маналог старога ваўка"). Можна...

Аднак навошта ставіцца ў п[illegible]гэткага суддзі, які гатовы выносі[illegible]атэгарычны прысуд, калі яму нешта не падабаецца? У кожнага чытача будзе сваё ўспрыманне напісанага Н.Гальпяровічам. І, безумоўна, нешта не спадабаецца.

Ды ў адным я ўпэўнены: кніга "Востраў душы" нікога з тых, хто возьме яе ў рукі, абыякавым не пакіне. Бо душа паэта адкрытая, яна прагне ўзаемаразумення, а паколькі ў пераважнай большасці сваёй творы напісаны таленавіта, дык застаецца толькі сказаць Н.Гальпяровічу за гэтую новую паэтычную сустрэчу вялікі дзякуй і пажадаць яму новых і добрых кніг.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

БРЭСТ

ТЭАТРАЛЬНЫ



**Летась драматычны тэатр у Брэсце адзначыў сваё 50-годдзе. Як падарунак да юбілею ён атрымаў рэканструяваны будынак і новы статус -- цяпер называецца Брэсцкі тэатр драмы і музыкі. Болей дзесятка пастановак ідзе сёння на яго сцэне. Адзін з апошніх спектакляў -- "Жаніцьба Фігаро" славутага Бамаршэ. І гэты спектакль, і іншыя ідуць з поспехам.**

**НА ЗДЫМКАХ: галоўнае фае тэатра; чацвёрты год іграе ў трупе маладая, здольная актрыса Людміла РАБАЯ.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**



# "ШОСТАЯ ЛІНІЯ"





**1 ліпеня ў галерэі "Шостая лінія" адкрылася выстава твораў мастакоў беларускага авангарда з калекцыі бізнесмена Аляксандра Іванова. Пералік удзельнікаў выставы адначасова мог бы служыць адказам на пытанне аб самых цікавых маладых (і ўжо не вельмі) беларускіх мастаках, якія адлюстроўваюць свет, скажам так, не самым традыцыйным чынам. Гэта Уладзімір Акулаў, Уладзімір Лаппо, Уладзімір Цеслер, Сяргей Малішэўскі, Артур Клінаў, Віктар Пятроў, Вольга Сазыкіна, Генадзь Хацкевіч і іншыя. Аднак, нягледзячы на гэтае сузор'е імёнаў, выстава носіць назву "Неактуальнае". На маё пытанне, чаму менавіта так, уладальнік калекцыі Аляксандр Іваноў адказаў, што сёння ўвогуле займацца мастацтвам неактуальна, бо грошай яно не прыносіць і практычнай аддачы таксама. Такім чынам, атрымліваецца, што актуальны сёння якраз той самы бізнес, якім займаецца Іваноў. Дарэчы, карціны ён збірае ўжо 10 год, і галоўным крытэрыем адбору, па яго словах, з'яўляецца яго ўласны густ. Да таго ж, усе гэтыя мастакі -- сябры Іванова.**

**Калі разглядаць мастацтва, як адлюстраванне жыцця, дык надта ж цікавае ў гэтых людзей жыццё. У ім -- нязвычныя фарбы, шмат вострых вуглоў, людзі -- то дзіўныя, ламаныя істоты з грацыяй багамолаў, то чырвоныя д'яблы з раскосымі вачыма. Сазыкіна Вольга намалявала сваіх сяброў -- птушку і ката і так іх і назвала -- "Мае сябры". А ў "Пірамідцы" сабрала ўсіх разам, аднаго на адным, як брэменскіх музыкаў. Затое -- разам. Затое -- усім добра. А дворнікі, што з мётламі задумліва лунаюць у шэрым беларускім небе, сталі амаль што галоўнай і асноватворнай прыкметай нацыянальнага выяўленчага мастацтва.**

**Сваіх сяброў-мастакоў Аляксандр Іваноў называе "дылетантамі жыцця", дылетантамі, якія заўсёды дрэнна вучыліся ўменню жыць.**

**А на першым паверсе будынка, дзе знаходзіцца выстава "Неактуальнае", падчас яе адкрыцця дзве старэнькія вахцёршы па тэлевізары неадрыўна сачылі за падзеямі "Трапіканкі". Актуальнасць гэтага мастацтва для іх была бясспрэчнай.**

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: В. САДЫКІНА "Пірамідка"; А. КЛІНАЎ "Дождж".**

НА БЕЛАРУСІ СТВОРАНА СЛУЖБА ДЗЯРЖАЎНЫХ ЗНАКАЎ ПАШТОВАЙ АПЛАТЫ

# ЦЯЖКІЯ КРОКІ ПЕРШАПРАХОДЦАЎ

Звыклыя для нас паштовыя паслугі, як вядома, у большасці выпадкаў аплачваюцца знакамі паштовай аплаты. Нам нават у галаву не прыходзіць думка, напрыклад, адправіўшы пісьмо ці бандэроль, не заплаціўшы за паслугі пошты патрэбным наборам паштовых марак. Але ўявіце на момант сітуацыю, што звыклыя і неабходныя нам знакі паштовай аплаты раптам зніклі. Што тады можа адбыцца з нашымі пісьмамі і наогул з паштовымі сувязямі?

Падобная сітуацыя магла адбыцца і ў Рэспубліцы Беларусь. Вядома, што ў бытнасць Савецкага Саюза ўсе знакі паштовай аплаты, у тым ліку і канверты, для Беларусі цэнтралізавана рыхтавалі прадпрыемствы Дзяржзнака Саюза. На Беларусі такіх спецыялізаваных прадпрыемстваў раней не было, не было і адпаведных кадраў.

І вось палітычная сітуацыя карэнным чынам змянілася. Не стала Саюза, а Рэспубліка Беларусь аб'яўлена незалежнай дзяржавай. Натуральна, захавала статус і свая паштовая адміністрацыя. Усе функцыі, што раней належалі ёй, таксама захаваліся. Але як можна забяспечыць пры гэтым патрэбу свайго насельніцтва, шматлікіх адміністрацыйна-кіраўнічых структур, прадпрыемстваў і арганізацый у знаках паштовай аплаты пры адсутнасці базы для іх вытворчасці?

Спачатку карысталіся запасамі паштовых марак СССР, якія былі, потым спрабавалі рабіць разнастайныя наддрукоўкі з дапамогай франкіравальных машын. Але ўсё гэта было толькі мімалётнай з'явай на шляху падрыхтоўкі самастойнага, незалежнага ад Расіі выпуску ўласных знакаў паштовай аплаты маладой беларускай дзяржавы.

З гэтай мэтай 15 красавіка 1994 года была створана на базе дзяржаўнага прадпрыемства "Мінская пошта" служба знакаў паштовай аплаты. Менавіта гэтай службе належала забяспечыць нашу пошту маркамі, віншавальнымі паштоўкамі, рознымі канвертамі. Зрабіць гэта трэба бы хутка, не парушаючы звыклага рытму і парадку работы паштовай службы дзяржавы.

Натуральна, што ўзнікла шмат самых нечаканых пытанняў і шляхоў іх вырашэння. Бо ўсё пачыналася на пустым месцы. Не было спецыялізаванай паліграфічнай вытворчасці па выпуску канвертаў і марак, не было вопыту на звычайнай арганізацыі падрыхтоўкі арыгінала марак, не было неабходных ведаў філатэлістычных патрабаванняў і асаблівасцяў, што прад'яўляюцца да знакаў паштовай аплаты, і да т.п.

Не без дапамогі ўрада рэспублікі было закуплена імпартнае абсталяванне для вытворчасці паштовых марак. А вось аб канверце і яго выпуску ў вярхах не падумалі. У выніку рэспубліканскаму аб'яднанню "Белпошта" прыйшлося праблему забеспячэння канвертамі вырашаць самому. Амаль 60 мільёнаў канвертаў -- такая гадавая патрэба ў іх нашай маладой дзяржавы. І пакуль гэта праблема дзесьці разглядаецца, кімсьці і неяк вырашаецца, "Белпошта" вымушана адшукваць любыя магчымасці вырабу канвертаў. Нават за мяжой. Гэта няпростае пытанне, і чым хутчэй яно будзе вырашана, тым больш значным будзе імідж Беларусі.

Затое з выданнем паштовых марак "Белпошта" справілася. І хаця работнікаў пошты нікуды не пасылалі па вопыт, вучыцца ў другіх, як гэта было ў паліграфістаў, яны ўпэўнена рабілі першыя крокі, і вось першыя вынікі. Паштовыя маркі, падрыхтоўка якіх ажыццяўлялася службай знакаў паштовай аплаты ДП "Мінская пошта", надрукаваныя на беларускай паліграфічнай базе, мала чым адрозніваюцца альбо зусім не адрозніваюцца ад замежных эмісій. Ні па мастацкаму ўзроўню, ні па якасці паліграфічнага выканання. Гэта не азначае, што сёння работнікі службы выдання,ператворанага ў аддзел выдання знакаў паштовай аплаты выдавецкага цэнтра "Марка" РА "Белпошта", не бачаць сваіх далёка не выкарыстаных магчымасцяў. Іх мэта -- зрабіць марку канкурэнтаздольнай ва ўсіх адносінах.

Вось чаму работнікі аддзела выдання РА "Белпошта" разумеюць і ўсведамляюць, што сама марка, каб стаць сапраўдным творам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, павінна мець вельмі высокі графічны і паліграфічны, арнаментальны і фактурны ўзровень.

Пачалі наладжвацца добрыя кантакты з вядомымі ў нашай рэспубліцы мастакамі і маладымі, пачынаючымі графікамі, жывапісцамі. Сваімі парадамі і рэкамендацыямі дзеляцца з нашымі работнікамі спецыялісты Беларускага Дома друку. Так, ідучы насустрач адзін аднаму, у творчых спрэчках і практычных справах ствараецца беларуская дзяржаўная паштовая марка.

Тэматычны план выпуску знакаў паштовай аплаты на кожны год улічвае многія аспекты. Папершае. Як вызначыць такі тэматычны накірунак выдання марак, каб у іх была закладзена і адлюстравана найбольш рацыянальна гісторыя беларускага народа? Як паказаць яго культуру, этапы станаўлення і развіцця, як лепш, больш выразна раскрыць флору і фауну нашай Бацькаўшчыны? Адначасова ў план выдання знакаў паштовай аплаты штогод трэба ўключаць паштовыя знакі, прысвечаныя вядомым на Беларусі гістарычным асобам, архітэктурным помнікам даўніны і выдатным дзеячам сучаснасці, знамянальным падзеям.

Па-другое. Як з шматлікіх прапаноў па выпуску знакаў паштовай аплаты, прысвечаных розным юбілейным датам, падзеям, з'явам, адабраць галоўныя і вызначыць іх выпуск невялікай гадавой колькасцю? Бо, як у самой іх колькасці, сюжэтнай або тэматычнай, так і па тыражах паштовых эмісій ёсць разумныя межы і абмежаванні, парушаць якія не рэкамендавана Сусветнай паштовай канвенцыяй. І пры ўсёй гэтай шматплановай складанасці Мастацкі савет Міністэрства сувязі і інфарматыкі вызначыў накірунак і строга яго прытрымліваецца. У выніку дзяржаўныя знакі паштовай аплаты выдаюцца па плану і графіку. Іх тэматычная накіраванасць становіцца ўспрынята грамадскасцю. Гэта пацвярджаецца і ўзросшай зацікаўленасцю зарубежных карэспандэнтаў да беларускіх эмісій, якая праяўляецца з боку як фізічных, так і юрыдычных асоб, і павелічэннем колькасці жадаючых набыць нашы маркі.

Толькі за апошнія гады былі выпушчаны ў свет і атрымалі высокую ацэнку грамадскасці такія знакі паштовай аплаты, як квартблок, прысвечаны 10-годдзю чарнобыльскай трагедыі (мастак В.Сытчанка), серыя марак, прысвечаная знакамітым асобам Беларусі -- Сімяону Полацкаму, Льву Сапегу, Казіміру Семяновічу (мастак Л.Варэца), серыя марак з блокам, якая расказвае аб беларускай фауне (мастак А.Федзін), марка, прысвечаная нашаму земляку, вядомаму ў свеце афіяканструктару П.Сухому (мастак Л.Варэца), марка, прысвечаная 50-годдзю Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (мастак В.Каламіец) і іншыя. На момант паяўлення гэтага артыкула будуць выпушчаны новыя паштовыя маркі, якія адлюстроўваюць найважнейшыя падзеі ў жыцці маладой беларускай дзяржавы.

Больш поўныя звесткі аб марках, выпушчаных аддзелам выдання знакаў паштовай аплаты выдавецкага цэнтра "Марка" рэспубліканскага аб'яднання "Белпошта" можна атрымаць з каталогаў. Яны таксама вынік працы гэтага аддзела і з'яўляюцца першымі афіцыйнымі дзяржаўнымі каталогамі паштовых марак Рэспублікі Беларусь. У іх ёсць усе неабходныя звесткі аб паштовых марках, выпушчаных у перыяд 1992--1995 гадоў. Гэтыя каталогі таксама з'яўляюцца вынікам новага віду дзейнасці беларускай пошты. Але ж не за гарамі і іншыя новыя віды абслугоўвання. Такія, напрыклад, як абанементнае абслугоўванне насельніцтва рэспублікі беларускімі знакамі паштовай аплаты і паштовымі маркамі краін СНД. У перспектыве перад аддзелам выдання стаяць новыя для пошты накірункі працы. Яны ўключаюць не толькі арганізацыю выпуску і рэалізацыю філатэлістычнай прадукцыі, але і развіццё экспартна-імпартнай работы, пашырэнне тэматыкі, відаў і формаў будучых выпускаў знакаў паштовай аплаты і г.д. У перспектыве паўсядзённае ўдасканаленне формаў і метадаў сваёй работы, вывучэнне і абмен вопытам з аналагічнымі цэнтрамі ў краінах блізкага і далёкага замежжа. Усё гэта -- новыя і далёка не простыя задачы. Але такі лёс першапраходцаў -- адкрываць і асвойваць новае, перадавое.

**Анатоль ЛІСОЎСКІ,**
**інжынер аддзела**
**рэспубліканскага аб'яднання "Белпошта".**

*АХ, ЛЕТА, ЛЕТА!..*






**Вось і прыйшла жаданая пара летняга адпачынку для дзяцей. Актыўныя гурткоўцы Брэсцкага гарадскога дома дзіцячай і юнацкай творчасці за кошт гарадскога аддзела народнай адукацыі праводзяць дні у палатачным лагеры "Палескія рабінзоны", які размясціўся на беразе маляўнічага возера Саляхі ў Брэсцкім раёне. Паходы, рыбалка, купанне -- усё гэта ідзе на карысць дзецям. Іх у лагеры адпачне сёлета больш за паўтары сотні.**

**НА ЗДЫМКАХ: падабаецца чай з траў сямікласніцам 15-й школы горада Брэста Вользе ЗАРЭМБА і Лілі ЯРМОХІНАЙ; каша, звараная на кастры, -- самая смачная; купанне ў чыстай вадзе возера -- задавальненне.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**



## ПРЫПЯЦКІЯ РАСКОПКІ

Археалагічная экспедыцыя Інстытута гісторыі АНБ даследуе паселішча каля вёскі Чэрнічы Жыткавіцкага раёна на правым беразе Прыпяці. Старое сяло знаходзілася непадалёку ад Турава -- сталіцы княства X--XII стагоддзяў. Ужо знойдзены амуніцыя воіна, фрагменты глінянага і шклянога посуду, прадметы быту і рэшткі гаспадарчых пабудоў, якія характарызуюць матэрыяльную культуру палескай вёскі X--XVI стагоддзяў. Упершыню ў сельскім паселішчы на тэрыторыі Беларусі выяўлены сляды майстэрні па вырабу кафлі.

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Минск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 718. Падпісана да друку 8.7. 1996 г.